НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 37 (778) 3 кастрычніка 2012

# Наша Ніва

www.nn.by

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у с

## «Заплаціў за кватэру 6 гадоў таму, а будаўніцтва яшчэ не пачалося»



Пяць гісторый долевага будаўніцтва ў Мінску.
Старонка 5.

## Размова з д'яблам



Споведзь Ігара Аліневіча.
Старонка 7.

# Місія папскага нунцыя

Клаўдыё Гуджэроці перадаў палітвязням вітанні ад Папы.
Старонка 3.




Тэндэнцыі

## Усё пачыналася з сальда і ў 2011-м

Замежны гандаль таварамі прынёс краіне **мінус $386 мільёнаў** у жніўні — і курс даляра пайшоў уверх.

Як аказалася, беларуская эканоміка ў 2012 годзе трымалася на паўлегальнай схеме экспарту растваральнікаў у Еўропу. Як толькі Расія запатрабавала спыніць пастаўкі, стабільнасць была пастаўлена пад сумнеў. У чэрвені сальда гандлю таварамі склала плюс $476 мільёнаў, праз месяц усяго $23 мільёны, аднак усё яшчэ заставалася станоўчым, а вось у жніўні яно абвалілася да крызіснага ўзроўню — мінус $386 мільёнаў. І гэта без уліку мытаў, якія Беларусь вяртае ў расійскі бюджэт. Штомесяц яны складаюць прыкладна $200 мільёнаў.

Сальда замежнага гандлю застаецца для эканомікі Беларусі адным з найважнейшых паказчыкаў. Калі краіна зарабляе, ёсць магчымасці і для росту заробкаў, і для назапашвання рэзерваў. У адваротным выпадку Нацбанку застаецца альбо дэвальваваць рубель, альбо ўтрымліваць курс адміністрацыйнымі метадамі. Пакуль што абраны першы варыянт.

Працяг на старонцы 2.

З'явілася інфармацыя, што цэны на бензін і дызпаліва вырастуць яшчэ на 5-7%. Гэта чацвёртае падаражанне за год. І гэта далёка не рэкорд: у 2011-м цэны павялічваліся 11 разоў.

Палітыка

### Пратэстанцкі епіскап Цвор заступіўся за Дашкевіча

Цвор просіць правесці расследаванне. **Старонка 4.**



Прызнанне

### Сівакова абвінавачвалі ў педафіліі

Экс-міністр расказаў, як плятуць інтрыгі ў кіраўніцтве Беларусі. **Старонка 8.**



Крымінал

### Топ-9 арыштаў у гарадскіх адміністрацыях

А вашага мэра яшчэ не пасадзілі? **Старонка 10.**



Кіно

### Калі ў Маскве гаварылі па-мангольску

Новы расійскі фільм «Арда» ламае стэрэатыпы. **Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Усё пачыналася з сальда і ў 2011-м

Працяг са старонкі 1.

Афіцыйны курс амерыканскай валюты дасягнуў у сераду гадавога максімума — 8520 рублёў, у абменніках жа курс продажу сягаў 8700 рублёў.

А вось пра далейшыя намеры ўладаў найлепш сведчыць закон «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2013 год». З яго вынікае, што ўсе памылкі чыноўнікаў, якія прывялі да крызісу і дэвальвацый, пераносяцца і на наступны год. Зноў арганізуецца нарошчванне ВУП — ён павінен прырасці ажно на 8,5%. Зноў «лакаматывам» эканомікі прызначаецца жыллёвае будаўніцтва. За 2013 год мае быць пабудавана 6,4 мільёна квадратных метраў жылля, у паўтара разу больш, чым сёлета. Ну і тая ж пагоня за заробкам. Паводле абяцанняў прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, беларусы будуць атрымліваць па $600 пры запланаваным курсе даляра на ўзроўні 8950 рублёў.

**Бюджэт-2013 сфарміраваны з разліку 8 950 рублёў за даляр**

Бюджэт 2013 года сфарміраваны з разліку курсу 8 950 рублёў за даляр. Пра гэта паведаміў журналістам у парламенце міністр фінансаў Андрэй Харкавец.

БелТА

Але незалежныя эканамісты кажуць, што дасягнуць такіх паказчыкаў адначасова можна будзе або ў выпадку прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў, або калі атрымаць новыя вялікія крэдыты з Расіі ці МВФ.

Ягор Марціновіч

**Танней за 8550 рублёў даляр ужо не купіш**

Увечары аўторка найтанней набыць даляры можна было за 8550 рублёў. Такі курс выстаўляў «БПБ-Ашчадбанк».

Афіцыйны курс даляра на сераду складае 8520 рублёў, на такую лічбу банкі арыентаваліся ў сярэдзіне дня. Аднак бліжэй да вечара курс зноў пайшоў уверх. Цяпер па курсе Нацбанка можна здаць валюту (напрыклад, у «Белсвісбанку»).

А вось курс продажу значна большы. Банк ВТБ, напрыклад, увогуле прадае амерыканскую валюту па 8700 рублёў.

Валюта пры гэтым застаецца ў свабодным продажы.

ЯМ

**Фотафакт**




Такую туалетную паперу будуць выпускаць. Першыя водгукі на гэту ідэю, мякка кажучы, неадназначныя.

**Мастакі**

## Слова з трох літар

На вядомым сэрвісе Google Maps відаць, што дах прэстыжнай беларускай ВНУ "упрыгожаны" напісаным белай фарбай непрыстойным словам «з трох літар». Слова напісана гіганцкім памерам. З зямлі яго ніяк не разгледзець, а са спадарожніка Google — без праблем.

Фатаграфіі далучаць не будзем.

**Рэкамендуем**

## Меркаванні: час прымаць строгія меры да алкаголікаў, аж да гвалтоўнай стэрылізацыі

**Дыскусійны артыкул: абмяркоўвайце на nn.by.**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам даставіць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

**Сцісла**

**Праезд падаражэе**

Праезд у гарадскім транспарце Мінска даражэе да 1700 рублёў з 3 кастрычніка. Калі білет прадае кіроўца, цана квітка павялічваецца да 2000 рублёў. Цана месячнага праязнога на чатыры віды транспарту (аўтобус, тралейбус, трамвай, метро) складзе 131400 рублёў.

**Клуб на паўвостраве**

Расійскі інвестар хоча збудаваць у Мёрскім раёне Віцебскай вобласці вялізны загарадны клуб для багатых. Шыкоўны гатэль-клуб з'явіцца на паўвостраве ў вёсцы Мурашкі і будзе разлічаны на 150 чалавек.

**Макей: «Час імперыялізму незваротна сышоў»**

«У якія б прыгожыя лозунгі яго ні адзявалі — дэмакратыя, правы чалавека, добрае кіраванне». Пра гэта заявіў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, выступаючы 1 кастрычніка на 67-й сесіі Генеральнай асамблеі ААН у Нью-Ёрку. Ён раскрытыкаваў спробы Захаду навязваць іншым краінам дэмакратычны лад і свае стандарты.

**Захарчанка прытулку не атрымаў**

Літва адмовіла збегламу беларускаму сяржанту Захарчанку ў прытулку і забараніла тры гады ўязджаць у краіну. Малодшы сяржант роты глыбіннай разведкі спецназа Мінабароны Сцяпан Захарчанка летась збег у Літву і папрасіў палітычнага прытулку. Аднак суд не паверыў заявам Захарчанкі, што яму ў Беларусі нешта пагражала.

**Беларуска выйграла вакальны конкурс у Галандыі**

Салістка Пермскага тэатра (Расія), сапрана з Беларусі Надзея Кучар выйграла 49-ы Міжнародны конкурс вакалістаў у галандскім Хертагенбасе. За перамогу Кучар атрымае 12,5 тысячы еўра. Кучар нарадзілася ў 1983 годзе ў Мінску.

СГ

**Самае чытанае на nn.by за 26 верасня — 2 кастрычніка**

1 40 гадоў таму загінуў Лявон Баразна. Савецкі КГБ забіў патэнцыйнага нацыянальнага лідара?

2 Каб пракінуць Міхальчанку, амаль 5 тысяч чалавек «прагаласавалі на даму»

3 Другі Кангрэс беларусістаў пачаўся весела: палітолаг Суздальцаў пакінуў залу

4 Улады рэзка змянілі прагноз курсу рубля

5 Лідскі замак: самая дрэнная рэстаўрацыя ў свеце

6 Масква пра растваральнікі: «Беларусы сказалі, што зразумелі, але нічога не разумелі»

7 Уцекачы-прапагандысты з «СаўБеліі» заснавалі эканамічнае інфармагенцтва

8 Джэніфер Лопес выступіла ў Мінску са сваім каханкам

9 «Я тебя посажу к блатным, там тебя оттрахают, понял?»

10 Samsung размясціў у Мінску новыя білборды ў падтрымку беларускай мовы

# Місія папскага нунцыя

Пасланнік Ватыкана **бачыў** Бяляцкага, Статкевіча, Дашкевіча.

У мінулую сераду стала вядома, што апостальскі нунцый наведаў у турме Паўла Севярынца і перадаў праз яго вітанні іншым палітвязням.

Гэтая вестка дала надзею, што Каталіцкая царква стала пасярэдніцай між уладамі Беларусі і палітвязнямі. Гэта, ёсць спадзеў, можа прывесці да вызвалення вязняў сумлення.

А ў чацвер на сайце радыё Ватыкана з'явілася наступнае паведамленне:

«На знак павагі да ўніверсальнага маральнага аўтарытэту Святога Айца і гуманітарных намаганняў Святога Пасаду, у рамках двухбаковых дыпламатычных адносін, папскаму прадстаўніку ў Мінску, арцыбіскупу Клаўдыё Гуджэроці, было дазволена наведаць некаторых зняволеных у турмах Беларусі. Гаворка ідзе пра Каваленку, Сырамолатава, Статкевіча, Бяляцкага, Дашкевіча, Лобава і Севярынца. Апостальскі нунцый сустрэўся з кожным з гэтых зняволеных у месцах пазбаўлення волі, даведаўся пра іхні стан і выслухаў іх. Ён перадаў ім малітвы Святога Айца і каталікоў за іх і іх сем'і».

Папа Бенедыкт XVI прымаў Аляксандра Лукашэнку ў 2009 годзе ў Ватыкане. Гэта быў першы заходні візіт кіраўніка Беларусі пасля доўгага перыяду ігнаравання яго еўрапейскай супольнасцю за парушэнні правоў чалавека і нормаў прыстойнасці.

«Каментаваць гэтае паведамленне радыё Ватыкана перавышае мае паўнамоцтвы, а нунцыя ў краіне няма, ён будзе ў краіне толькі ў сярэдзіне кастрычніка», — адказаў «Нашай Ніве» супрацоўнік апостальскай нунцыятуры.

Мікола Статкевіч у суботу меў магчымасць патэлефанаваць жонцы. «Ён думае, што пачаўся гандаль, і звязвае візіт нунцыя якраз са спробамі ўлады «дамовіцца», — перадала словы экс-кандыдата ў прэзідэнты Марына Адамовіч.

«Самым вялікім сюрпрызам быў прыезд 25-га верасня нунцыя, — напісаў з турмы Алесь Бяляцкі, які ў гэты дзень адзначаў 50-гадовы юбілей. — Як у свой час Ян Павел II з'ездзіў на Кубу — і выпусцілі больш за 100 вязняў. Пасадзілі на самалёт і адправілі ў Канаду без іхняй згоды. Спадзяюся на больш удалы варыянт. Урэшце, тое, што нунцыя пусцілі да нас, гэта даволі аптымістычны знак. Ён спытаўся, што перадаць Папу. Я сказаў: па-дзяку за клопат пра нас. Але ў гэтай усёй гісторыі значна важней стварыць такую атмасферу, каб не было так, што адных выпусцяць, а новых набяруць. І пра гэта заўсёды трэба памятаць».

Сем'і беларускіх палітвязняў выказалі падзяку Папу за ўвагу да іх сваякоў. Яны звяртаюцца да Папы «з просьбай маліцца за нас, за Беларусь, за тых, хто цярпіць у вязніцах пераслед, здзекі, гвалт, аддае сваё жыццё дзеля праўды, свабоды, справядлівасці і будучыні, пабудаванай не на камуністычных, а на хрысціянскіх каштоўнасцях».

**Мікола Бугай, ЗП**




Клаўдыё Гуджэроці і Аляксандр Лукашэнка.

**Клаўдыё Гуджэроці**

нарадзіўся у 1955 у Вероне (Італія). Святарскае пасвячэнне атрымаў у 1982. Скончыў факультэт Усходніх моваў і літаратуры пры Венецыянскім дзяржаўным універсітэце Cà Foscari, а таксама атрымаў ступень магістра навукі святой літургіі пры Папскім літургічным інстытуце св.Анзэльма ў Рыме.

У 1985 паступіў на служэнне ў Апостальскую Сталіцу ў Кангрэгацыю па справах Усходніх Касцёлаў. Да свайго прызначэння Апостальскім нунцыем у Беларусі нёс служэнне ў Грузіі, Арменіі і Азербайджане.

# Сяргей Каваленка: Усе балячкі загаіліся

**Былы палітвязень** адказаў на пытанні «Нашай Нівы».

Сяргей Каваленка выйшаў на волю 26 верасня. Начным цягніком ён даехаў з Магілёва да Віцебска. Адаспаўся, пасля чаго быў гатовы да гутаркі.

**«Наша Ніва»: Сяргей, як сябе адчуваеце?**

**Сяргей Каваленка:** Добра. Усе балячкі загаіліся, жоначка мая перадавала лекі ў калонію. У мяне арганізм вельмі моцны, хутка аднаўляецца.

**«НН»: На судзе Вы выглядалі вельмі кепска.**

**СК:** Пасля суда яшчэ горш. Важыў усяго 45 кілаграмаў, дык я ў пятым класе больш важыў — 47 кг. Жывот, ногі — усё было фіялетавым. Цяпер у мяне вага 91 кілаграм.

**«НН»: Падчас галадоўкі сапраўды былі гатовыя памерці?**

**СК:** Так, памерці. Я нават радаваўся, калі ў мяне пачаўся гепатоз. Зэкі на Валадарцы думалі, што я ўжо памёр, але памёр нехта іншы. Калі мяне адвезлі ў дурку, то вырашыў, што яшчэ ўколяць нешта, буду «овашчам» на ўсё жыццё, праз катэтар будуць карміць. Таму і спыніў галадоўку. Роўна месяц у мяне вага складала 45 кілаграмаў.

**«НН»: Чаму падпісалі зварот на імя Лукашэнкі?**

**СК:** У мяне сям'я. Мне ўсё казалі: вось напішаш, будзеш з імі радавацца жыццю. Восем дзён у ШІЗА прасілі, каб раскаяўся, прызнаў віну. А потым сказалі, каб напісаў проста: прашу мяне вызваліць. Ноч думаў, вырашыў, калі я прасіў суддзяў, пракурораў мяне вызваліць, то чаму не магу Лукашэнку. Ён жа такі самы чыноўнік. Трэба вам паперка — бярыце паперку. Ні ў чым я не раскайваўся.

**«НН»: Па-беларуску пісалі Лукашэнку?**

**СК:** Напісаў на іхняй мове.

**«НН»: Пасля таго як зварот быў напісаны, ціск спыніўся?**

**СК:** Быў выпадак, калі мяне справакавалі. Знаходзіўся 16 сутак у ШІЗА за напад на «заўхоза». Там качок такі, 190 рост. Мне не спадабалася, што ён пра мяне казаў іншым вязням. Пасля ШІЗА яшчэ 10 сутак правёў у бальнічцы. Калі выйшаў, то ніхто мяне не чапаў.

**«НН»: Як вязні да Вас ставіліся?**

**СК:** Па-рознаму. Газеты яны чытаюць: «Народную волю», «Нашу Ніву», «Свабодныя навіны», «Камсамолку». Людзі ўсё разумеюць, але баяцца. 23 верасня глядзелі па тэлебачанні пра выбары, дык паказалі скрыню для галасавання і пячатку. Адзін кажа: «Што вы нам паказваеце гэтую пячатку, нібыта мы не ведаем, як усё робіцца». Проста час Х яшчэ не прыйшоў. Але ўсе разумеюць, што спадзявацца трэба толькі на сябе, а не на Расію.

**«НН»: Не было ўмовай вызвалення, каб спынілі грамадскую дзейнасць?**

**СК:** Не. Хаця адразу прасілі, але зразумелі, што бессэнсоўна. Калі вызвалялі, то папрасілі проста без прыгод даехаць дадому.

**«НН»: Вы ў турме часта сустракаліся р Паўлам Сырамалотавым?**

**СК:** Ён быў у суседнім сектары. Размаўлялі амаль штодня, у тым ліку пра палітыку. Ён анархіст, я — нацыяналіст. Погляды ў нас троху розныя, але мы палітычныя вязні. Малайчына ён, у свае гады пайсці на такі крок. Вельмі мужны чалавек.

**«НН»: Цяпер Вам трэба будзе адзначацца ў міліцыі?**

**СК:** Не думаю пра гэта. Артыкул у мяне не такі ўжо цяжкі. Я і так ад іх нацярпеўся.

**«НН»: Пра працу ўжо думалі?**

**СК:** Мая заказчыца ў Віцебску чакае мяне ўжо дзесяць месяцаў. Я ёй раблю рамонт, падказваю з дызайнам. Трэба дарабіць пачатае.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



PHOTO BYMEDIA.NET

Сяргей Каваленка з жонкай у наступны дзень пасля вызвалення.

**Павел Сырамалотаў таксама на волі**

Як і Сяргей Каваленка, бабруйскі анархіст Павел Сырамалотаў напісаў ліст на імя Лукашэнкі. «Прашэнне пісаў мой адвакат. Гэта было роўна 3 месяцы таму, 25 чэрвеня. 30 чэрвеня папера ўжо пайшла. Відаць, яны вельмі чакалі гэтага прашэння. І толькі праз 3 месяцы мяне вызвалілі», — сказаў Павел.

## Сцісла

**Макей пагутарыў з Хілары Клінтан**

Сустрэча адбылася 1 кастрычніка падчас першай міністэрскай сустрэчы Форума малых дзяржаў, які аб'ядноўвае 105 дзяржаў-сяброў ААН з насельніцтвам менеі 10 мільёнаў чалавек.

**Лукашэнка ўзнагародзіў сілавікоў медалём «За бездакорную службу»**

У прыватнасці, медаля «За бездакорную службу» I ступені ўдастоены палкоўнікі фінансавай міліцыі Ігар Мальцакоў, Генадзь Прохарцаў, Віктар Франскевіч і Юрый Шыракоў, палкоўнік Аляксей Цікуноў, падпалкоўнік фінансавай міліцыі Алег Залан, падпалкоўнікі Анатоль Палеўскі і Анатоль Шкабара, падпалкоўнік медыцынскай службы Міхаіл Рабіза.

**Турму на Акрэсціна зачыняюць на еўрарамонт**

На час рамонту ЦІП «сутачнікі» будуць адбываць пакаранне ў ізалятары часовага ўтрымання. Ён размешчаны ў суседнім будынку.

**Спецдакладчыкам будзе Харашці**

Венгр Міклаш Харашці прызначаны спецыяльным дакладчыкам па сітуацыі ў Беларусі Савета ААН па правах чалавека. Да гэтага Харашці ўжо бываў у Беларусі як прадстаўнік АБСЕ па свабодзе СМІ.

# Пратэстанцкі епіскап Цвор заступіўся за Дашкевіча

**Дашкевіч перадаў з калоніі, што яго зневажалі за пратэстанцкую веру і пагражалі згвалтаваннем.**

В.а. епіскап Аб'яднанай царквы хрысціян веры евангельскай Сяргей Цвор просіць дзяржаўныя органы правесці расследаванне дзейнняў адміністрацыі папраўчай калоніі № 20 Мазыра ў дачыненні да палітвязня Змітра Дашкевіча.

Адпаведны зварот святар накіраваў у Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, Генеральную пракуратуру і дэпартамент выканання пакаранняў МУС.

«Інфармацыя аб ціску, што аказваецца ў калоніі на Дашкевіча, выклікае нашу трывогу і заклапочанасць. Асабліва дзіўна, што начальнік калоніі Юрый Збароўскі, які называе сябе праваслаўным і па статусе заклікацны адказваць за законнасць і правапарадак, дазваляе сабе зневажальнае стаўленне да евангельскіх вернікаў», — напісаў Цвор.

«Пагрозы і знявагі недапушчальныя ў дачыненні да любога чалавека, верніка або не, бо кожны чалавек ёсць вобразам Божым і ўсялякая знявага чалавека ў нейкай меры зневажае і Творцу. Нядзіўна, што знявагі і пагрозы, у тым ліку і пагрозы згвалтавання, што гучаць з вуснаў прадстаўнікоў адміністрацыі калоніі, прымусілі Дашкевіча да такой крайняй формы пратэсту, як галадоўка», — адзначае Цвор.

«Мы, у сваю чаргу, будзем маліцца ў памесных цэрквах, каб жыццё і здароўе Змітра Дашкевіча былі па-за небяспекай», — заключае Цвор.

**ЛМ**



**Фотафакт**



Ігар Ляшчэня з жонкай.

**Куды паставяць Ляшчэню?**

Лукашэнка вызваліў ад пасады пасла ў Ізраілі Ігара Ляшчэню. Яму 45 гадоў. Ляшчэня — прафесійны дыпламат-арабіст (скончыў Інстытут міжнародных адносін). Папрацаваў яшчэ ў пасольстве СССР у Каіры. Потым ужо ад Беларусі ўзначальваў прадстаўніцтва ў Егіпце (на той момант Ляшчэню было ўсяго 30 гадоў). Ад 2002 да 2006 быў памочнікам Лукашэнкі, пакуль не прызначылі пасломy у Ізраіль. Можна б меркаваць, што Ляшчэню паставяць новым кіраўніком МЗС, але нядаўна гэтую пасаду заняў Уладзімір Макей.

**ЗП**

## Уцекачы-прапагандысты з «СаўБеліі» заснавалі эканамічнае інфармагенцтва

**Ірына Юзвак, Віталь Валянюк, Ігар Кольчанка сышлі з газеты падчас эканамічнага крызісу.**

З'явіўся новы партал эканамічнай інфармацыі «Бізнэс-навіны». «Гэта незалежная беларуская кампанія, місія якой забяспечваць бізнэс максімальна поўнай, дакладнай і актуальнай інфармацыяй з Беларусі», — адзначаюць стваральнікі сайта.

«У сваёй дзейнасці рэдакцыя інфармацыйна-аналітычнага агенцтва «Бізнэс-навіны» палітычна нейтральная. Мы таксама не аказваем ідэалагічную падтрымку каму б ні было», — дадаюць яны.

Аднак яшчэ год таму кіраўніцтва агенцтва аказвала тую самую «ідэалагічную падтрымку» беларускім уладам. «Бізнэс-навіны створаныя былымі топ-журналістамі «Савецкай Беларусіі». Дырэктарка — Ірына Юзвак, галоўны рэдактар — Віталь Валянюк. Сярод супрацоўнікаў — Ігар Кольчанка.

Кольчанка працаваў у «СБ» ажно з 2002. Доўгі час ён быў галоўным палітычным аглядальнікам і суправаджаў у паездках Аляксандра Лукашэнку. Да канца 2011 пад яго ным аўтарствам выйшла больш за 1500 матэрыялаў, накшталт «Народ заўсёды мае рацыю. А як іначай» пасля выбараў 2006 ці «Выбар зроблены! Ідзём далей» у 2010.

Ірына Юзвак спецыялізавалася на эканоміцы, але не адмаўлялася прайсціся моцным словам і па лідарах апазіцыі.

Абое яны сышлі з газеты ў канцы 2011, калі заробкі ў дзяржаўных газетах апусціліся на дно.

Віталь Валянюк пратрымаўся ў газеце на некалькі месяцаў больш. Апошні час працы ў «СБ» ён таксама суправаджаў Лукашэнку ў паездках. У газеце ж ён друкаваўся з 2005, паспеўшы апублікаваць каля 1000 матэрыялаў. На прэс-канферэнцыі летась ён спытаў у Лукашэнкі, ці не думае той, што варта выпусціць палітвязняў, як таго просіць Еўрасаюз. Кіраўнік дзяржавы быў відавочна здзіўлены такому пытанню. Валянюк аказаўся выязны, і праз некаторы час перайшоў працаваць на tut.by.

Цяпер брыгада прапагандыстаў зноў узʼядналася.

**Віталь Несцераў**

## «Арт-сядзібе» не далі адкрыцца, адразу апячаталі

**Стартаваць яны хацелі з канцэрта Лявона Вольскага.**

У пятніцу мела адбыцца адкрыццё новага памяшкання «Арт-Сядзібы» (Пушкіна, 28а). Першым канцэртам мусіў быць акустычны выступ Лявона Вольскага. Аднак увечары ў чацвер арт-дырэктар «Арт-Сядзібы» Павал Белавус прыехаў да памяшкання і даведаўся, што МНС апячатала будынак.

«Мы ўчора рабілі генеральную прыборку, — расказвае Белавус. — А 18-й гадзіне я вярнуўся на «Сядзібу» і ўбачыў, што дзверы апячатаныя, а побач вісіць паперка з прозвішчамі двух сведкаў. Выявілася, што, пакуль нас не было, МНС нас зачыніла. Уласнік памяшкання пасля расказаў, што, як толькі ў інтэрнэце з'явілася інфармацыя пра наша адкрыццё, яго выклікалі ў міністэрства, літаральна паднялі з ложка. Склалі паперу. Мы, канечне, можам адкрыцца, але спачатку да нас прыедзе МНС, пасля санстанцыя, пасля яшчэ хто-небудзь.

Болей за пару месяцаў мы ўсё адно не пратрымаліся б, таму скасавалі дамову». Ці «Сядзібу» закрылі праз яе мінулае, ці прычына ў канцэрце Вольскага — дырэкцыя «Сядзібы» адказаць не можа.

Аднак «Арт-Сядзіба» так ці інакш будзе адноўлена. «У нас зараз ёсць для таго сродкі, магчымасці, людзі, — не губляе аптымізму Белавус. — Відаць, будзем шукаць памяшканне, якое належыць фізічна асобе, каб гэты чалавек не баяўся пусціць нас да сябе. Ці будзем шукаць памяшканне, якое належыць замежнікам, ці паспрабуем дамаўляцца з амбасадамі».

**Юрась Ускоў**




## Саакашвілі прызнаў перамогу апазіцыі

Прэзідэнт Грузіі прызнаў перамогу апазіцыйнай кааліцыі «Грузінская мара» на выбарах у парламент па партыйных спісах. «Мы павінны навучыцца працаваць разам, нягледзячы на напружаную перадвыбарную кампанію», — прымірэнча сказаў Міхаіл Саакашвілі, выступаючы па тэлебачанні.

Са 150 дэпутатаў 77 абіраліся па спісах (паводле прапарцыйнай сістэмы), 73 — па мажарытарных (аднамандатных) акругах.

Аб'яднаны нацыянальны рух разлічваў на аднамандатнікаў. Аднак па меры падліку галасоў стала ясна, што апазіцыя атрымае ў парламенце большасць.

Пры Саакашвілі Грузія дасягнула фенаменальных поспехаў у барацьбе з карупцыяй, а тэмпы эканамічнага росту былі найвышэйшымі ў рэгіёне. Саакашвілі таксама вёў краіну курсам на інтэграцыю ў Еўрасаюз і НАТА. Гэтая палітыка праводзілася на ўсіх узроўнях: нават з масавым вывучэннем англійскай мовы. У той жа час правалам скончылася спроба Саакашвілі сілай аднавіць тэрытарыяльнае адзінства краіны.

Пасля кароткай вайны ў Асеціі ў 2008 годзе грузінскія сілы мусілі адступіць, а горны раён занялі расійскія часці. У тым канфлікце загінула каля 400 вайскоўцаў і мірных жыхароў з абодвух бакоў.

Апазіцыйная «Грузінская мара» складаецца з палітыкаў рознага гатунку.

Стракатую кааліцыю аб'яднаў грошы мільярдэра Бідзіны Іванішвілі, які мае адначасова з грузінскім яшчэ і грамадзянства Расіі і Францыі. Саакашвілі вінаваціў «Мару» ў сувязях з Масквой і выкарыстанні расійскіх грошай у кампаніі. Расія надае такую вялікую ўвагу Грузіі, бо гэтая закаўказская краіна — незаменнае звяно ў транзітным ланцужку між Еўропай і Цэнтральнай Азіяй.

Парламент набудзе большую вагу: іншай рэформай былі абмежаваны паўнамоцтвы прэзідэнта і павялічаны — парламента і прэм'ера.

**Мікола Бугай**

# «Заплаціў за кватэру 6 гадоў таму, а будаўніцтва яшчэ не пачалося»

**Пяць гісторый** долевага будаўніцтва ў Мінску.

Сталічных забудоўшчыкаў, якія скончаюць дамы ў тэрмін, можна пералічыць па пальцах. Камусьці перашкодзіў крызіс, камусьці — несумленныя падрадчыкі, але найчасцей сапраўднай прычынай становіцца расхлябанасць будаўнікоў, якая застаецца беспакаранай. Навасёлы, атрымаўшы ключы ад кватэры, не ідуць судзіцца — наперадзе працаёмкі рамонт. Вось толькі дачакацца гэтага моманту ўдаецца не ўсім. У некаторых выпадках дольшчыкі чакаюць свае кватэры гадамі. «Наша Ніва» даведалася, як вырашаецца сітуацыя на праблемных аб'ектах.

### Будоўля так і не пачалася

У тры дамы на праспекце Незалежнасці ў Мінску каля «Беларусьфільма» дольшчыкі павінны былі засяляцца ў канцы 2008 года. Прынамсі, такія тэрміны былі пазначаныя ў іх дамовах.

Заплаціўшы дзясяткі тысяч даляраў яшчэ ў 2005—2006 гадах (!), яны спачатку чакалі свайго жылля, пасля — вяртання сваіх грошай, цяпер — хоць нейкай кампенсацыі. Забудоўшчык, кампанія «Перспектыва-Інвест Буд», год за годам прасіла «трошкі пачакаць». Але і праз шэсць гадоў пасля поўнай аплаты кватэры на месцы будаўніцтва па-ранейшаму можна ўбачыць некалькі забітых сваяў у гіганцкай яме. Агулам у ёй аказаліся пахаваныя $10 мільёнаў.

«Пацярпелых дольшчыкаў было пад 130 чалавек. Некалькім дзясяткам удалося праз суд вярнуць укладзеныя ў будоўлю грошы. Але з часу аплаты курс даляра вырас у чатыры разы! Людзі бралі крэдыты, пазычалі ў знаёмых і ў выніку засталіся ні з чым. Некалькі сем'яў увогуле разышліся, бо ў кватэру яны ўклалі ўсё, што маглі, — расказвае Андрэй, адзін з дольшчыкаў. — Мы падалі ў суд на дырэктара забудоўшчыка Сяргея Дземчука, каб яго пасадзілі за махлярства, а вярнулі нам грошы. Але суддзя дырэктара апраўдала, маўляў, у тым, што дом не пабудаваны, вінаватыя не ён, а камерцыйныя рызыкі. Дарэчы, цяпер Дзямчук зноў затрыманы, але ўжо па іншай справе». Сумнявядомы дырэктар праславіўся яшчэ і тым, што выставіў на продаж кватэру ў сваім іншым навабудзе на вуліцы Кісялёва за $3,5 мільёна. Будаўніцтва і гэтага дома таксама расцягнулася на дзясятак гадоў...

Ініцыятыўная група дольшчыкаў тым часам вядзе перамовы з Мінгарвыканкамам. Адзін з варыянтаў вырашэння сітуацыі — стварэнне кааператыва і самастойны пошук інвестара.

### Імідж замінае дабудоўваць

Самая гучная гісторыя, звязаная з махлярствам забудоўшчыка, закруцілася вакол дома каля станцыі метро «Каменная Горка». Пад відам офіса кампаніі-забудоўшчыка «ТэраБудІнвест» існавала арганізацыя, якая прымала ў дольшчыкаў наяўную валюту нібыта на будаўніцтва жылля. З кліентамі заключаліся дамовы на будаўніцтва кватэраў, якія ўжо належалі іншым людзям. Калі бурбалка лопнула, каля 500 нелегальных дольшчыкаў засталіся без грошай. Агулам махляры атрымалі $5 мільёнаў. Адзначым, што дзяржава пайшла насустрач пацярпелым. Людзям сталі прапаноўваць месцы ў ільготных жыллёвых кааператывах, праўда, пабудавацца паспела менш за 100 чалавек з іх.

А што з самім домам і сапраўднымі дольшчыкамі? Шэсць пад'ездаў-секцый з дзесяці ўжо здадзеныя ў эксплуатацыю, і ў іх ужо засяліліся жыхары. А вось пра лёс астатніх пад'ездаў нічога аптымістычна не скажаш. «Мая кватэра якраз знаходзіцца ў наступным, сёмым пад'ездзе. Я заключаў дамову ў канцы 2009 года. Прайшло тры гады, а мы ўсё яшчэ застаёмся на здымным жыллі, — наракае дольшчык Віталь. — Калі б забудоўшчык кінуў усе сілы на наш пад'езд, да канца года можна было б дабудаваць. Але мы ілюзій не маем. Відаць, яшчэ паўгода давядзецца чакаць. А вось з наступнымі пад'ездамі сітуацыя нашмат горшая. Праз гучную крымінальную справу ў забудоўшчыка сфарміраваўся кепскі імідж. Новыя дольшчыкі да нас не ідуць, а свабодных грошай у «Тэры» бракуе».

### Непаваротлівы «Мінскбуд»

Іншая гарачая кропка на мапе Мінска знаходзіцца на скрыжаванні праспекта Дзяржынскага і вуліцы Шчорса. Гісторыя не мае дачынення да прыватнікаў, тут правініўся дзяржаўны «Мінскбуд». Арганізацыя, якая найчасцей займаецца будаўніцтвам сацыяльных дамоў, вырашыла пабудаваць дом па камерцыйных цэнах. Год таму квадратны метр быў ацэнены ў 7,3 мільёна рублёў пры няпэўным курсе даляра. Будаўніцтва мусіла скончыцца ў сакавіку 2012 года.

Літоўска-МАПІДаўскае будаўніцтва: уваход ёсць, сцэнаў няма.



З тым, што тэрміны не выконваюцца, дольшчыкі былі гатовыя змірыцца. Аднак юрысты «Мінскбуда» прапанавалі ім падпісаць дадатковае пагадненне, згодна з якім кошт квадратнага метра вырастаў да 8,5 мільёна рублёў. У выніку за двухпакаёвую кватэру трэ было даплаціць амаль $10 тысяч. «Мінскбуд» тлумачыў сітуацыю проста: у крызіс усе будаўнікі ўцяклі працаваць у Расію, а матэрыялы істотна падаражэлі, таму грошы на будаўніцтва і скончыліся. Многія дольшчыкі вырашылі даплаціць, але астатнія гатовыя змагацца да апошняга. Яны пішуць скаргі ў кантралюючыя структуры і кіраўніцтву горада, нават запісалі відэазварот да Аляксандра Лукашэнкі. Кропка ў канфлікце пакуль не пастаўленая. Будаўніцтва аднавілася, але ці давядзецца плаціць астатнім дольшчыкам, невядома.



Дом ад «ТэраБудІнвеста» непрыглядным бокам.

### Спакуса з Курганнай

У сярэдзіне 2010 года, яшчэ да пачатку валютных скачкоў, літоўскі інвестар меўся пабудаваць за 8 месяцаў комплекс жылых дамоў усяго па $910 за квадратны метр. Прапанова прывабіла многіх — унікальныя скандынаўскія тэхналогіі будаўніцтва, бясшумныя ліфты, імпартныя прыборы. І ўсё гэта яшчэ і побач з вадаёмам. Не засмучала нават месца будаўніцтва — спальны раён Малінаўка — і тое, што, згодна з дамовай, 100% цаны кватэры трэба было заплаціць адразу ж.

Час расставіў усё на свае месцы. Прайшло два гады, а ў двух першых дамах яшчэ толькі ўзводзяцца сцены. А вось замест астатніх дамоў будуць пабудаваныя серыйныя панэлькі ад МАПІДа. Затое пазіцыі забудоўшчыка, кампаніі «Гербелінвест», узмацніліся, нягледзячы на відавочны інвестыцыйны правал. Замежнікі сталі генеральным спонсарам Нацыянальнага алімпійскага камітэта.




Ці давядзецца даплачваць за кватэры, залежыць ад настойлівасці дольшчыкаў «Мінскбуда».

### Дапамога для Белтэлерадыёкампаніі

Затое гісторыя з домам для супрацоўнікаў Белтэлерадыёкампаніі блізкая да свайго завяршэння. Дом «для сваіх» пачынаў будавацца за месяц да прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Квадратны метр каштаваў усяго $730 — значна танней за рынкавыя лічбы. Вось толькі на будаўніцтва грошай у БТ не хапіла.

Таму, калі ў канцы 2011 года справа ледзь не дайшла да замарожвання будоўлі, дом перакалі на Упраўленне капітальнага будаўніцтва (УКБ) Фрунзенскага раёна Мінска. Тэлевізіёншчыкам давялося перазаключаць дамовы, прычым квадратны метр для іх патаннеў аж да $550!

БТ абяцала здаць дом сёлета ў красавіку, УКБ арыентавалася на жнівень. Найхутчэй, тэлевізіёншчыкі атрымаюць ключы ад сваіх кватэраў у канцы зімы. Затое па льготнай цане і без даплат.

**Ягор Марціновіч,**
**фота Сяргея Гудзіліна**



Тэлевізіёншчыкам метр каштаваў $550.

# У Гомелі абвяргаюць інфармацыю пра эпідэмію менінгіту

Інфармацыя пра магчымую эпідэмію менінгіту ў Гомелі была надрукаваная на сайце charter97.org. Сайт спасылаецца на жыхара горада, які пажадаў захаваць ананімнасць.

У Гомельскай клінічнай бальніцы №3 карэспандэнту «НН» паведамілі, што нічога пра эпідэмію менінгіту не ведаюць.

«Калі б у горадзе склалася такая сітуацыя, мы адразу ж атрымалі б адпаведныя звесткі з гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі», — запэўніў намеснік галоўнага доктара Алег Кабылка.

Па яго словах, згодна з распараджэннем Мінаховы здароўя, пацыенты з падазрэннем на менінгіт накіроўваюцца ў інфекцыйную бальніцу.

Дарэчы, расказалі нам медыкі, насуперак распаўсюджанаму меркаванню, захварэць на менінгіт, папіўшы вады з-пад крана, фактычна немагчыма. Вада, якая ідзе ў кватэры, апрацоўваецца. А вось у пачатку купальнага сезона небяспека захварэць узрастае.

Галоўны санітарны доктар Гомельскай вобласці Аляксандр Тарасенка так пракаментаваў інфармацыю агенцтву БелТА.

«Традыцыйна з ліпеня адзначаецца сезонны ўздым захворвання энтэравіруснай інфекцыяй, якая выклікае ў тым ліку серозны менінгіт. У ліпені гэтага года ў Гомелі зарэгістравалі 10 выпадкаў серознага менінгіту, у жніўні — 17, у верасні — 44. Усе яны былі выкліканыя не менінгакокавай інфекцыяй, а энтэравіруснай. Гаворкі аб эпідэміі не ідзе, і сітуацыя знаходзіцца пад кантролем».

Аляксандр Тарасенка дадаў, што асноўнай групай рызыкі па захворванні серозным менінгітам з'яўляюцца дзеці да 14 гадоў. Асноўны шлях перадачы гэтай хваробы — паветрана-кропельны.

**Сямён Печанко**

**Менінгіт**

запаленне мяккай абалонкі вакол галаўнога і спіннога мозгу. Выклікаецца бактэрыямі і вірусамі. Вірусны менінгіт — найбольш пашыраная форма захворвання. Ён не пагражае жыццю хворага, але моцна аслабляе арганізм. Сімптомы: высокая тэмпература, галаўны боль, ваніты, раздражняльная рэакцыя на яркае святло. Пры падазрэнні на менінгіт трэба неадкладна звярнуцца па медыцынскую дапамогу.

**Фотафакт**

**Новы ўзор пашпарта грамадзяніна Беларусі вытворчасці ЗАТ «Галаграфічная індустрыя» быў прадстаўлены на сесіі савета рэспублікі. Абнавіць дакумент вырашылі з прычыны з'яўлення новых сродкаў абароны ад падробак. У новым узоры пашпарта будзе ўказвацца нацыянальнасць і рост. Аздобленыя старонкі выявамі архітэктурных славутасцяў. Сярод іх можна ўбачыць гомельскі палац Румянцавых і Паскевічаў, касцёл Святых Сымона і Алены, Полацкую Сафію.**



BELAPAN.COM



СТАСЕЛЬКА КІРЫЛ ІГАРАВІЧ. ПАШП. МР2118325 ВЫДАДЗЕНЫ ЦЭНТРАЛЬНЫМ РУУС МІНСКА

**УНІВЕРСІТЭТ ЛАЗАРСКАГА / LAZARSKI UNIVERSITY**
вядучы прыватны ўніверсітэт бізнесу і права ў Польшчы

- Студэнты з 30 краінаў свету
- Кваліфікаваныя выкладчыкі з ЗША і Еўропы
- Выпускнікі англамоўных праграмаў атрымліваюць два дыпломы – польскі і брытанскі
- Сістэма адукацыі накіраваная на высокую якасць і практычны досвед
- 96% выпускнікоў знаходзяць працу адразу пасля заканчэння ўніверсітэта

NIP 5241659051



*"Самы інавацыйны і крэатыўны ўніверсітэт у Польшчы" паводле вынікаў конкурса сярод прыватных універсітэтаў 2010 і 2011 гг.*

Даведайся больш: www.lazarski.ru
belinfo@lazarski.edu.pl
Тэлефон: +48 500 167 406

ТАА «Ірвінга Група», УНП 191751509

# Размова з д’яблам

**Палітвязень Ігар Аліневіч перадаў сведчанні пра катаванні ў турме КДБ.**

28 лістапада 2010, Масква, кавярня гандлёвага цэнтра «Ля Гарбушкі», 14.45 на гадзінніку. Выходзім з цэнтра, з усіх бакоў кінуліся 4 цені, схапіўшы пад рукі. Адзін з людзей у чорным супакойвае: «Гэта мы вашым дапамагаем». Хм, гэтыя «нашы» вашы, а не нашы. Бразнулі бранзалеты, запіхнулі ў машыну, шмон па кішэнях, мабіла, кашалёк, плэер... Шапка на вочы, адна машына, пасля другая. Паміж сабой людзі ў чорным не перагаворваюцца.

...Мяжа з Беларуссю. Галаву ўціскаюць у падлогу, значыць, аперацыя — нелегальная. Перадача мясцовым у бусік. Маскоўскія кажуць: «Больш такой х... не падкідвайце».

***

Заводзяць у кабінет, садзяць на крэсла, тварам у стол, на шыю апусцілася рабро чыёйсьці далоні. Наперадзе самая доўгая ноч у маім жыцці...

Бралі зморам. Я засынаў шмат разоў і прачынаўся; як толькі адчувалі стомленасць, адразу ўзмацнялі ціск. У ход ішло ўсё: пагрозы, ліслівасць, шантаж, разважанні пра бессэнсоўнасць барацьбы, сумневы ў бок таварышаў, упор на эгаізм і г.д. «...Закіну ў хату да скінхэдаў! У нас ёсць адмысловая скінхата!.. Ты — прыгажунчык, такіх у турмах любяць... Цябе яшчэ не білі нармальна... Навошта табе гэта? Жыў бы як усе».

***

«...У мяне ёсць пра што з вамі пагаварыць», — сказаў сівы, але моцны палкоўнік з 4-га аддзялення КДБ. З акна самага далёкага кабінета адкрываўся раптоўны від начнога горада, цэнтральнага праспекта Мінска. Не павеpу, што пасля камеры на кагосьці гэта не зрабіла б уражання. Так блізка і так далёка, даўжынёю ў гады... Гарбата, печыва, пернікі, іншая абыходлівасць, як у фільмах.

Тры дні запар размовы да ночы — пра анархічны рух, метады, асабісты выбар, сэнс жыцця і г.д. Палкоўнік цікавіўся такімі рэчамі, як «фінансаванне», «лідары», «замежныя сувязі» — ніхто ўжо не верыць, што людзі могуць нешта рабіць самастойна, з ідэйных меркаванняў. На трэці дзень усё скончылася пытаннем: «А ці могуць анархісты і ўлада існаваць разам да светлай будучыні? Ці хацелі б вы стварыць уласную арганізацыю?» Мой адказ моцна засмуціў палкоўніка... Па дарозе ў камеру ўспомніўся Маякоўскі і яго вялікае «...я лепей у бары бл.дзям буду падаваць ананасную ваду...»

***

«З рэчамі на выхад!» — прагучала распараджэнне кантралёра. Скончыліся два тыдні адзіночкі, зараз — у іншую камеру. Заходжу, вітаюся. Перада мной стаяць людзі, самыя звычайныя людзі з чалавечымі тварамі. Неяк не так я ўяўляў сабе крымінальнікаў. Падыходзіць хлопец і пытаецца: «За МТЗ ганяў?» Кажуць, што свет цесны. Але хто б мог падумаць, што я сустрэнуся ў СІЗА КДБ, дзе ўсяго 18 камер на 60 месцаў, з чалавекам, з якім некалькі гадоў ганяў за МТЗ-РІПА! Сапраўды, цесны свет!

***

Вынікі прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня мы даведаліся ноччу, калі ў камеру паднялі пятага чалавека, Алега Корбана. Высветлілася, што дзясяткі тысяч людзей выйшлі на вуліцу і адбыліся сутыкненні каля Дома ўрада. У той жа дзень Алега забралі. Замест яго паднялі Анатоля Лябедзьку.

Вопытны палітычны дзеяч, ён шмат дзе паспеў пабываць і паўдзельнічаць у шматлікіх справах. Праўда, гэта ніяк не перашкодзіла яму зрабіць нас у даміно і іншыя гульні.

***

Мы не ведалі, што азначае ўвод спецназа ў турму. Вопытных зэкаў сярод нас не было...

Але тады яшчэ на выраз «мордой в пол» мы ў гневе агрызаліся, а хамства і грубасць спісвалі на тое, што гэтых прамілаў узялі з якога-небудзь АМАПа. Нават калі нас паставілі на расцяжку падчас ператрусу, спецыяльна вывеўшы для гэтага ў спартзалу, мы ўспрымалі гэта як гнілыя панты, грубыя спробы прыстрашыць, танны фарс, які вось-вось скончыцца.

***

2011-ы пачаўся змрочна. Толькі вярнуліся ў камеру, як ля кармушкі з’явілася галава кантралёра з пытаннем: «І хто ў нас тут мастак?» Я ўзяў на сябе і пайшоў зацірась назад адзін. Памылка. Раптам яны загадалі зняць швэдар і ім жа сцерці снежныя майстэрствы. Зразумела, я адмовіўся. Тут жа атрымаў дубінкай у галаву. Загад — адмова — удар, загад — адмова — удар... Білі ў галаву, па вушах, па шыі, у пах, пад калена, у зубы, вочы. Кроў закіпела, кулакі сціснуліся самі сабой. Убачыўшы такі паварот, маскі адыйшлі на пару крокаў і сталі з дубінкамі наперавес, крычалі, каб расціснуў кулакі, але я іх ужо не чуў. Сітуацыю разруліў дзяжурны, які нечакана з’явіўся за іх спінамі. Пры ім яны не пасмелі працягваць. Унутры ўсё гарэла... На зваротным шляху пры лесвіцы зноў тармазнулі. Тыя ці іншыя, не разабраў. Патрабавалі па камандзе схіліць галаву. Адмова. Магутны ўдар у галаву, па шыі ззаду. Адмова. Зноў комплексны падыход. Адмова. Дарэшты выведзены з сябе карнік закрычаў: «Ты што, ідэйны?!» — «Так, ідэйны». — «Не разумею, ты — злодзей ці што?!» — «Не». — «Так, б..., за якую ты ідэю?!» — «За свабоду я!»

Раніцай наступнага дня экзекуцыя працягнулася. Вычапілі на зваротным шляху з сарціра. На гэты раз маскі сабраліся ўсе разам, чацвёра ці пяцёра. Перагарадзілі дарогу, каманда — апусціць галаву. Адмова. Пару ўдараў, нуль рэакцыі.

Ставяць на расцяжку каля сцяны. Пацікавіліся, ці буду далей адмаўляцца. Адказ станоўчы. Рэзкі ўдар па нагах, падаю як падкошаны на калені і локці. Дручкі, ногі... Хапаюцца падняць, але дах ужо сарвала, у вачах — чырвоная заслона. Гэта ўжо не я. Адбіваюся ад захопаў, кручуся на падлозе як ваўчок. Скручваюць, пстрыкаюць бранзалеты. Цягнуць у спартзалу. Ставяць на вельмі жорсткую расцяжку, упёршы галавой у сцяну. Расцягваюць ногі берцамі, на галёнці падэшвай ірвуць скуру. Б’юць пад дых, туды-сюды, але болю ўжо не адчуваю. У крыві львіная доля адрэналіну. Падносяць да твару ўключаны электрашокер. Страшна, але толькі мацней сціскаю зубы. Перамовы. Сыходзімся, што буду толькі апускаць позірк пры камандзе «галаву ўніз». Хоць нешта. Цішком мажуць ранкі — перакісам вадароду, мабыць.

Яшчэ праз суткі запісваюся ў медпункт, каб зняць пабоі. На лбе — гематома, калені і локці разбітыя. На галёнцы — шнар. Вусны, вуха... больш чым дастаткова. Аднак замест лекара ўся камера ідзе на прыём да начальніка СІЧУ. У прасторным, добра ўладкаваным кабінеце сядзеў чалавек невысокага росту, але з уладным і самаўпэўненым тварам. «Вы — тэрарыст?» — жорстка спытаў палкоўнік Ар-ў. «Не». — «Навошта вы збілі двух кантралёраў? У мяне вось рапарты ляжаць. Аднаму прыйшлося бальнічны даваць. У іншага — рука пашкоджаная». Во як!

***

У пачатку студзеня ў камеры адбыліся перастаноўкі, якія выразна пачалі будучы склад выпрабавальнага вальвера №4. Валодзю і Лябедзьку прыбралі, а на замену даслалі Малчанава Саню і Фядуту Аляксандра. Абодва — палітычныя.

Аляксандр Фядута апынуўся 46-гадовым мужчынам у акулярах. Наколькі буйны ў целе, настолькі буйная палітычная фігура. Ён стварае ўражанне вялікага гуманіста XVIII стагоддзя і таямнічага шэрага кардынала.

Аляксандр ледзь не ночы на допытах. 8–12 гадзін у інквізітараў былі стабільна яго. Мы хутка паладзілі. Калісьці Аляксандр быў школьным настаўнікам, правадыром камсамола, журналістам, які сустракаўся з Горбі. Затым адным з верхаводаў брыгады Лукашэнкі, а цяпер стаў яго вязнем.

***

Карнікі спрабавалі разбурыць салідарнасць. Як бычцам адмыслова праводзілі шмон або «асабісты нагляд» падчас настольнай гульні, калі ў запале азарту мы забывалі пра ўсё. Ці адных шманаюць, а іншых — не, каб выклікаць зайздрасць і падазрэнне.

***

Выклікі да гаспадара «амерыканкі» — асобная тэма. Ва ўсім гэтым дурдоме толькі яго кабінет уяўляў сабой лагуну супакою і міру. Звычайна ён сустракаў вельмі добразычліва, умеў цікава гаварыць і слухаць.

Расказваў, што ўдзельнічаў у аперацыях у гарах, сядзеў дзесьці ў азіяцкай турме, не п’е, не паліць. Нават неяк не верылася, што менавіта ён катуе нас, гуляецца як кот з мышамі, дырыжуе ўсю гэтую трагікамедыю. Ён не рабіў тапорных памылак, як простыя оперы. Ён мог цішком пацікавіцца меркаваннем пра сукамернікаў.

Ніякай гарбаты з карнікамі! Я так адразу і заявіў, і паўтараў кожны раз, калі начальнік прапаноўваў.

Людзі чамусьці думаюць, што гэта — драбяза. Маўляў, калі мент паводзіць сябе культурна і прыстойна, то можна і гарбатку паганяць. Тым самым прызнаюцца дапушчальнымі ўсе тыя здзекі і падман, якім падвяргаюць зняволеных.

Ён сцвярджаў, што яго мэтай з’яўляецца прымусіць нас сумнявацца. З размоваў мне стала вядома, што яны практыкуюць індывідуальны падыход да кожнай камеры і да кожнага чалавека. Усё выразна планавалася: калі, дзе і колькі разоў. Як праводзіць шмон, каго падвяргаць персанальнай экзекуцыі, дзе пакінуць святло на ноч, дзе забараніць паліць. Нават каго закрануць у страі падчас прагонаў у туалет ці на шпацыр.

«Свет — гэта гульня ваўкоў. І больш моцная згрыз заўсёды спрабуе ўрваць у меншага суседа. Я атаясамліваю сябе са сваёй зграяй, і яе дабрабыт — ёсць дабрабыт маёй сям’і, блізкіх, супляменнікаў», — разважаў Ар-ў пра свой светапогляд.

***

У пачатку лютага маскі азвярэлі дарэшты. Была пятніца, трое ў камеры захварэлі на грып. Усю ноч трэсла: тэмпература, дрыжыкі. Назаўтра схадзілі да лекара, ён выпісаў таблеткі.

Увечары тузанулі мяне і Малчанава з усімі шмоткамі. Навучаныя горкім вопытам, мы выклалі кнігі і іншыя цяжкія рэчы. Як звычайна, спусціліся ў спартзалу, але чамусьці крокам і без рову. Падазрона ціха. Нічога добрага гэта не прадказвала. Чаканне басаног на бетоннай падлозе голым. Пачалося. «Сабраць рэчы!», «Жыва!», «Што незразумела?!!», «Жывей», «Я сказаў!!!», «БЯГООМ!!! ... Па лесвіцах, калідорах. Заганяюць у «дурхату» ў склепе (гэта — абабітая гумай і дзерманцінам камера для ўціхамірвання буйных). Зноў шмон. Ставяць на расцяжку і сыходзяць, але перыядычна падыходзяць да вочка праверыць. Збор шмоткаў, ледзь паспяваеш апрануцца, матрац пад паху і бягом па калідоры на лесвіцу, якая вядзе ў цэнтр гэтага неакалізея. На фінішы стаіць карнік і гарлапаніць: «Занадта павольна, назад!» Іншы падганяе. Чую, як на іншай лесвіцы ганяюць Саню Малчанава. Сваліта.



**Ігар Аліневіч**

нарадзіўся ў 1983. Закончыў Універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі па спецыяльнасці інжынер-электроншчык. Браў удзел у працы над расійска-беларускім спадарожнікам. Да крымінальнай адказнасці Ігар Аліневіч быў прыцягнуты па так званай «справе анархістаў». 24 траўня 2011 судом Заводскага раёна Мінска быў асуджаны да 8 гадоў пазбаўлення волі. Ігар Аліневіч прызнаны беларускімі і міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі палітычным вязнем.

***

Зусім хуткае першае пасяджэнне суда. Яго чакаеш як збавення. Калі справу перадалі ў суд, далі кароткае спатканне з бацькам. Шкло, тэлефонная трубка... Цяжка знаходзіцца ў метры ад блізкага чалавека і не мець магчымасці абняцца.

***

...Раніца. Канвой, кайданкі, аўтазак, глухі «стакан» у апраметнай цемры. Машына мчыцца па зялёнай, з мігалкамі. Каб усядзець на месцы, даводзіцца ўпірацца галавой у сценку. Пад’ехалі проста да дзвярэй з чорнага ўвахода. Да дзвярэй двайны калідор з мянтоў. Паасобку вядуць у склеп. Размяркоўваюць па камерах-«стаканах», на гэты раз бетонных. Паўметра на метр. Шмон, старанна правяраюць вопратку. У гэты момант сустракаецца позіркамі. Столькі хочацца сказаць, абняцца, пацісунуць рукі. Выстройваюць калонай і выводзяць у залу пасяджэнняў. У холе свет народу, успышкі фотакамер. Усё гэта ўводзіць у ступар. Прыходзяць адвакаты, адзін за адным з’яўляецца мноства знаёмых і незнаёмых людзей. Гэтая падтрымка ўмацоўвае.

***

Апошняе слова. Не рыхтаваўся, думаў, што заўтра. Вырашыў сказаць пра Дзіму Дубоўскага, нашага таварыша, якога абылгалі і цяпер пераследуюць. З нас чацвярых яму выпалі самыя цяжкія выпрабаванні. Хай нават яму і ўдалося захаваць тое, што ў гэтым убогім грамадстве называюць «свабода». Да яго ўжылі самыя подлыя і гідкія метады аператыўнай распрацоўкі. Але Дзіма ўсё вытрываў і пераадолее любыя цяжкасці. Такія людзі — назаўсёды. І гады ў засценках — не перашкода для нашага брацкага таварыства. Саня і Коля (Францкевіч і Дзядок — «НН») сказалі вельмі годна. Прысуд. Што ж, восем гадоў на адным уздыху! Апошні позірк на блізкіх мне людзей.

Паціскаем рукі і абдымаемся з Колем. Для мяне гонар падзяліць лёс з такімі людзьмі.

***

З дня на дзень чакаю этапа на Валадарку. У адзін з гэтых апошніх дзён адчыніліся дзверы і ў камеру ўвайшоў... палкоўнік Ар-ў уласнай персонай! Натуральна, па маю душу. Начальнік цікавіўся маім настроем, стаўленнем да тэрміну, што мне «прыпісалі».

Нават выказаў некаторае спачуванне. Я не веру ў сентыментальнасць чэкістаў і таму чакаў сутнасці дыялогу.

Ар-ў раптам выпаліў: «А давайце да нас хакерам! Вунь як кітайцы разгарнуліся! Уласны ноўтбук вам дамо».

Прызнацца, я аслупянеў і зусім разгубіўся. Тады Ар-ў выдаў другую порцыю: «Ну, калі не хочаце хакерам, давайце сюды ў гаспадарчую абслугу. Тут добрыя ўмовы, шмат пераваг». Разрыў шаблонаў, вынас мозгу, татальны шок... Няўжо я дзесьці калісьці хоць у чымсьці даў падставу прапаноўваць мне ТАКОЕ?

***

...Этап на Валадарку. Адбылося! Развітваюся з сукамернікамі, кешар у рукі, шмон, фармальныя працэдуры. Вядуць да бусіка.

Абарочваюся, аглядаю гэта месца, наскрозь прасякнутае горам, адчаем. Амерыканка... Калі-небудзь тут бу-дзе музей пакуты.

**«Новы час»**

# Раманчук вылучаецца ў прэзідэнты?

Не, усяго толькі **навіновае махлярства**.




У аўторак на многіх сайтах з'явілася інфармацыя, што Яраслаў Раманчук вылучаецца ў прэзідэнты краіны ў 2015. Нібыта такую заяву ён зрабіў у інтэрв'ю тэлеканалу «Аль-Джазіра».

Яшчэ ніхто з палітыкаў пра сваё жаданне балатавацца ў прэзідэнты не заяўляў, а тут Раманчук, якому многія не могуць прабачыць за мінулую Плошчу, калі ён абвінаваціў у «беспарадках» Статкевіча і Саннікава. Праз гэта Раманчук не апынуўся ў турме, у адрозненне ад кіраўніка яго штаба Анатоля Лябедзькі.

«Я заявіў, што 2015 далёка і ўсё можа быць, а яны — мабыць, праз адсутнасць сенсацый — інтэрпрэтавалі гэта па-свойму», — сказаў пасля Раманчук.

Палітык сказаў, што тэлеканал проста перакруціў яго словы і ніякай сенсацыі няма.

**ЗП**

## Сівакова абвінавачвалі ў педафіліі




Юры Сівакоў і Аляксандр Мядзведзь перад Алімпіядай-2004.

Экс-міністр спорту расказаў, як **плятуць інтрыгі** ў кіраўніцтве Беларусі.

Як адбываецца працэс звальнення, сыходу з пасады міністра? — пацікавілася ў Юрыя Сівакова газета «Прессбол».

«Элементарна. І ў шоу-бізнэсе, і ў спорце, асабліва ў найвышэйшых колах, усюды інтрыгі. І ёсць цэлы шэраг люд-зей, спрактыкаваных у гэтым. Яны сканавалі сваіх кіраўнікоў.

Вось як атрымалася ў маім выпадку? Спачатку прэзідэнту пачалі ўкідваць: «Добры мужык Сівакоў, але непрафесіянал ў спорце». — «Не слухай ты, навучыцца. Не багі гаршкі абпальваюць». Але семя кінутае.

Прайшоў тыдзень, другі, трэці. Званок: «Як там у хакеі?» — «Ды ніяк». Адзін пункцік, другі. Семя разрастаецца.

Калі назапасілася крытычная маса, робіцца чарговае ўкіданне. Можна адчуваць да чалавека рознае: каханне, нянавісць і гэтак далей. Але самае непераадольнае з гэтых пачуццяў — гідлівасць.

І вось калі канчаткова выспела меркаванне «Сівакоў — непрафесіянал», было зробленае апошняе ўкіданне: «Вы ведаеце, ён яшчэ і педафіл! У цэнтры спартыўнай медыцыны стварыў ФАК, куды ў лазню цягае дзяўчынак з мастацкай гімнастыкі».

Усё, пачуццё гідлівасці выкліканае. Пазней нічога не пацвердзілася, але што зробіш — час прайшоў...»

**АГ**

**Фотафакт**




**Лявон Вольскі 28 верасня прэзентаваў на ўправе БНФ новы альбом «Саўка ды Грышка». На сустрэчу прыйшло 150 чалавек.**

## На дзіцячае «Еўрабачанне-2012» паедзе Ягор Жэшка з песняй «А мора-мора...»



Ягору 12 гадоў, ён жыве і вучыцца ў Мінску, займаецца ў эстрадна-вакальнай студыі прадзюсарскага цэнтра «Залатыя галасы» пры арт-групе «Беларусы».

У міжнародным дзіцячым песенным конкурсе «Еўрабачанне-2012» у Азербайджане прымуць удзел артысты з 12 краін. Сярод канкурсантаў — Албанія, Арменія, Азербайджан, Беларусь, Бельгія, Грузія, Ізраіль, Малдова, Нідэрланды, Расія, Швецыя і Украіна.

**ЛМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Вяртанне да Суціна, альбо Кола жыцця

Нацыянальны мастацкі музей выставіў карціны мастакоў славутай Парыжскай школы, што нарадзіліся ў Беларусі. «Ты чуў? — спытаў я ў Вілена. — Там ёсць карціна Суціна...»

Мы не бачыліся амаль пятнаццаць гадоў, за якія ён паспеў у сваім Валожыне напісаць мноства карцін, нарэзаць з дрэва вялікую колькасць скульптур, якія раз'ехаліся па розных краінах, і зусім пасівець. «Ты памятаеш, як вы з Гольбам ездзілі ў Смілавічы?» — запытаўся я...

Гэту гісторыю — як яны з Віленам ездзілі ў Смілавічы — я чуў менавіта ад Гольбы.

Быў 1960, магчыма, 1961 год. Яны толькі вярнуліся з Казахстана, дзе пасля школы тры гады будавалі чыгунку ў Кітай. Гольба падаўся на філфак, Вілен — у тэхналагічны, на лесавода. Абодва захапляліся Ван Гогам, Пікаса і Далі, самі малявалі ў ідэалагічна недазваляльных абстракцыянізме ды сюррэалізме, а Гольба яшчэ і пісаў вершы: «...Когда парное молоко сольётся с древних колоколен...»

Так, абодва былі таленавітыя, Гольба — таленавіты шалёна. І даволі хутка заззяў у сутарэннях мінскага андэграўнда.

Якім сярэднявечным скразняком занесла у Беларусь семя невядомага, мусіць, іспанскага габрэя? Так, не толькі прозвішчам, але і знешне Гольба быў вельмі падобны на вытанчонага іспанца.

«Так, — адказаў Вілен, — пра Суціна і пра тое, што ён са Смілавіч, мы ўпершыню даведаліся з мемуараў Эрэнбурга... Ну, і паехалі ў Смілавічы. Якраз быў кірмаш, нейкі дзядок-габрэй падказаў адрас: Камсамольская ці 15, ці 115...» «Вы нешта шукалі? Гольба расказваў мне, што ўзлазілі нават на падстрэшша...» — «Не-не, пляменніца Суціна так напалохалася, што далей парога не пусціла...»

Гольба з'ехаў у Амерыку ў 1975. Гадоў за сем да таго яго адшукаў Сяргей Параджанаў, які амаль употай прывёз у Мінск свой апошні шэдэўр — «Цвет граната».

### Тут жыў мастак...

Убачыў у мастацкім салоне ластавак, якіх Гольба дзеля заробку маляваў на самаробнай парцаляне, набыў усіх і папрасіў Алега Белавусава зладзіць сустрэчу. Алег патэлефанаваў мне...

Да Параджанава ў гатэль «Мінск» мы пайшлі з Гольбам удвух. У нумары было шмат народу, ліўся каньяк... Мы прыладзіліся збоку кампаніі, Параджанаў дастаў з кішэні «ластавак»: «Вашы?» І адразу прапанаваў Гольбу папрацаваць мастаком на ягоным новым фільме. Але тут, зварухнуўшы паветра, з грукатам расчыніліся дзверы і нехта хударлявы артыстычна бухнуўся каленямі аб падлогу: «Сярожа, ты — геній!» Мы паціху сышлі...

Параджанава праз нейкі час кінулі за краты. А Гольба з'ехаў у Амерыку. Разам з рэштай карцін ад раздораных ці згубленых па прытулках.

Апошні раз мы выпадкова сустрэліся на плошчы Перамогі, на тралейбусным прыпынку... «Ну, усё, стары, атрымаў дазвол. Еду... Не-не, праводзіць не трэба, у цябе будуць непрыемнасці. Давай тут развітаемся...» І ён моцна сціснуў мяне ў абдымках. Падышоў тралейбус. Гольба ўскокнуў у яго, развітальна замахаў з-за шкла, а я раптам убачыў, як кіроўца нацягвае гумавыя пальчаткі, каб перавесці штангі на правады, якія вядуць па коле плошчы ў парк... «З вяртаннем на радзіму!» — абняліся ізноў. «Так, стары, жыццё — замкнёнае кола...» — стрымана усміхнуўся Гольба...

Праз колькі гадоў па Мінску разнеслася чутка, што Гольба вярнуўся і нават жыве, дзе жыў. Я, вядома, паехаў у стары драўляны барак. Зараз на тым месцы ўздымаюцца шкляныя гмахі, а тады я прасунуўся па трухлявай падлозе, праз прыкра-салодкі пах газовак і вільготную бялізну, развешаную на вяроўках, у канец цьмянага калідора. На абдрапаных дзвярах вісеў вялізны замок. Раптам з-пад прасцірадлы высунуўся п'янаваты мужчына з мурзатым дзіцём на руках. «Тут вось жыў мастак, — нагадаў я, — з'ехаў у Амерыку, а зараз, гавораць, вярнуўся...» «Сюды?!»

Калі-нікалі ад агульных знаёмых, што бачыліся з ім, даходзілі да мяне звесткі пра ягонае амерыканскае жыццё. «Ён піша цудоўныя карціны, — расказваў адзін з іх, — апошняя проста геніяльная — «Зорка, што ўпала ў кубак з малаком»...» «Купляюць?» — «Не, мусіць, не...» А ці не з пяць гадоў таму наладзіліся паміж намі тэлефонныя размовы. «Стары, — усклікнуў аднойчы Гольба, — я за адзін крок да мільёна!» Але я не даведаўся, ці пераадолеў ён гэты крок — у хуткім часе тэлефон у начлежцы для бяздомных канчаткова аглух...

...Карціну Суціна «Вялікія лугі ў Шартры», адзіную на выставе, мы ўбачылі неяк знянацку. Вілен то набліжаўся да яе, то глядзеў здалёк. Раптам прамовіў: «Ведаеш, чымсьці нагадвае Лошыцу. Гольбаў вельмі любілі маляваць Лошыцу...»

* * *

«...У Суціна былі вочы зацкаванага звера, мусіць, ад голаду. Ніхто не звяртаў на яго ўвагі. Ці магчыма было сабе ўявіць, што пра працы гэтага кволага падлетка, народжэнца беларускага мястэчка Смілавічы, будуць марыць музеі ўсяго свету?» (Ілля Эрэнбург, «Люди, годы, жизнь», 1960-я).

# Заслаўе: плюсы і мінусы жыцця ў прадмесці Мінска

**Зручнае размяшчэнне**
і добрае паветра, кепскія дарогі і брудная вада.



Былы кальвінскі збор — адзін з шэдэўраў беларускай архітэктуры.

У Заслаўе мы з жонкай пераехалі ў канцы 2009. За гэты час мы ацанілі перавагі жыцця ў горадзе-спадарожніку і не паспелі звыкнуцца з яго недахопамі. Зрэшты, і тут, маючы грошы, частку праблем можна вырашыць.

Адно з першых пытанняў, што нас хвалявала пры пераездзе на новае месца, — колькі часу будзе займаць дарога на працу.

### Транспарт

Патрапіць з Заслаўя ў цэнтр Мінска можна ў сярэднім за гадзіну. Да Чыгуначнага вакзала і маршрутка, і электрычкі едуць 40 хвілін. Дадайце час на дарогу ад жытла да вакзала ў самім Заслаўі. Праз Заслаўе на Мінск пралягае некалькі маршрутаў аўтобусаў, але ходзяць яны даўжэй і радзей, таму мы імі не карыстаемся.

Ёсць тут і гарадскія аўтобусы. Ездзяць не вельмі часта, але пустымі і яны не бываюць. Ідэальны варыянт — уласнае аўто.

Праезд у маршрутцы каштуе 8500 рублёў, у гарадской электрычцы — 3000, у «звычайнай» — 1860 рублёў. Разбежка ў цэнах у цэлым на працу маршрутак істотна не паўплывала — яны рэдка бываюць паўпустыя.

### Жыллё

На сёння ў Заслаўі жыве каля 15 тыс. чалавек. Апошні час колькасць насельніцтва павялічвалася ў большай ступені за кошт далучэння да горада навакольных вёсак, у меншай — за кошт пераезду ў прыгарад мінчукоў.

На нашых вачах у новым раёне горада збудавалі тры шматкватэрныя дамы, два здалі ў эксплуатацыю.

У Заслаўі планавалі збудаваць новы жылы раён з насельніцтвам, роўным па колькасці сённяшняму. Гэта нас урэшце і падкупіла. Але планы ў чарговы раз перагледзелі на карысць малапавярховай індывідуальнай забудовы.

1-пакаёўка 1985 года каштуе $31000 ($1013 м²), 1-пакаёўка 2010 года — $75000 ($1705 м²). За гэтыя грошы можна набыць 3-пакаёўку 1967 года ($890 м²) і драўляны дамок агульнай плошчай 39 м². І яшчэ застанецца $4000.

Кватэры ў новых дамах маюць дадатковыя бонусы ў выглядзе паркавачнага месца і дзіцячай пляцоўкі. Пашыраная тут з'ява — двухузроўневыя кватэры. Ёсць яны ў дамах забудовы 80-х гадоў (5 пакояў агульнай плошчай 96 м², 2 санвузлы, шклопакеты, дамафон, сігналізацыя — $85 000), ёсць і ў доме 2006 (без аздаблення, шклопакеты, камп'ютарная сетка, паркоўка— да $850 за м²)

Прыватная забудова прапануе цэны ад $25000 за летні дамок да катэджаў пад ключ з цэнамі на сотні тысяч даляраў. Так, дом у нямецкім стылі ў гістарычнай частцы горада каштуе каля 175 тыс. у.а.

### Праца і вакансіі

У Заслаўі працуюць «Хенкель Баўтэхнік» — выпускае будаўнічыя сумесі Ceresit, і кампанія з канадскім капіталам «Косвік» — выпускае паркет.

«Заслаўебудіндустрыя» выпускае вырабы з бетону і жалезабетону, металаканструкцыі, а таксама аказвае будаўнічыя паслугі.

Заслаўская кампанія «Енісей» займаецца выпускам шкла і люстра.

Акрамя таго, у Заслаўі працуе невялікая ўласная мэблевая фабрыка, а таксама філія «Пінскдрэва».



Новы мікрараён Заслаўя.



Горад прырастае за кошт катэджавых пасёлкаў.

Таксама ёсць птушкафабрыка, будаўнічыя прадпрыемствы.

І ўсё ж пры наяўнасці такой колькасці прамысловых аб'ектаў, па розных ацэнках каля 30% працаздольных жыхароў Заслаўя працуюць у Мінску.

Аналіз вакансій сведчыць, што на сёння самую высокааплатную працу ў Заслаўі могуць знайсці цесляры і тынкоўшчыкі — будаўнічая кампанія «АлТаРэмСтрой» прапануе заробкі ад $800. Філіял «Пінскдрэва» шукае аператара дрэваапрацоўчага станка (4—5 млн руб). «Хенкель Баўтэхнік» мае патрэбу ва ўкладчыках-упакоўшчыках (ад 2,5 млн руб). Грузчыкі новага склада «Еўраопт» маюць шанцы атрымаць працу з акладам да 6 мільёнаў.

### Адукацыя і медыцына

У Заслаўі ёсць 6 садкоў і 3 школы. З кантактаў з маладымі суседзямі мы даведаліся, што чарга ёсць толькі ў сад-яслі №2 па адрасе зав. Дачны, 4. Ён лічыцца найлепшым у горадзе. Як і гімназія №3 на вул. Студзянецкай, 19. У старой частцы горада месціцца дзіцячая мастацкая школа. У цэлым заслаўцы даволі пазітыўна гавораць пра мясцовыя школы і садкі, не возяць дзяцей на вучобу ў Мінск.

З медыцынай складаней. Некалькі гадоў таму Заслаўе вывелі з абласнога падпарадкавання, і цяпер горад адносіцца да Мінскага раёна. Адпаведна, мясцовая бальніца і паліклініка з'яўляюцца філіямі Мінскай раённай бальніцы. У пэўных выпадках ехаць трэба акурат да бараўлянскіх медыкаў, а гэта ці не гадзіна шляху на ўласным аўто.

Дзіцячая кансультацыя і стаматалагічная паліклініка ў Заслаўі ёсць на месцы.

Заслаўе ляжыць за 10 км ад МКАД, 20 км ад цэнтра Мінска. Раней гэта была першая станцыя ад мяжы Заходняй і Усходняй Беларусі. З тых часоў станцыя ў Заслаўі носіць назву «Беларусь».

Заслаўе было заснаванае ў 985 годзе для княгіні Рагнеды і яе сына Ізяслава. Ад імені князя і пайшла назва «Ізяслаўе».



Адна з праблем — кепскія дарогі.

### Гандаль і сфера паслуг

У горадзе дзейнічае некалькі ўніверсамаў і крамаў, што належаць райспажыўсаюзу, а таксама колькі прыватных крамак. Усяго агулам больш за дзясятак.

Па свежае мяса і гародніну жыхары Заслаўя ходзяць на рынак. Тут можна набыць таксама бытавую хімію, тавары для дзяцей, а таксама вопратку і абутак айчыннай вытворчасці. Адчуваецца блізасць ждановіцкага рынка — менавіта там многія апранаюцца і абуваюцца. Цэны на заслаўскім вышэйшыя за мінскія.

Змены ў мясцовым гандлі можа прынесці гіпермаркет, які пачалі будаваць у новым раёне. На канец гэтага года запланаваная здача першай чаргі гандлёва-грамадскага цэнтра.

У горадзе працуе некалькі цырульняў і касметычных цэнтраў, а таксама трэнажорных залаў.

Жыхары Заслаўя глядзяць лічбавае тэлебачанне Zala ад «Белтэлекама» (ён жа з'яўляецца асноўным пастаўшчыком інтэрнэт-паслуг), кабельнае — мясцовай кампаніі «Алена плюс», а таксама спадарожнікавае ТБ.

### Адпачынак

Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе» прапануе адзін з шэдэўраў беларускай архітэктуры — былы кальвінскі збор, а таксама этнаграфічны комплекс «Млын» і гарадзішча «Замэчак». У Заслаўі працуе Дзіцячы музей міфалогіі і лесу, побач з ім месціцца Музей-Дот часоў Другой сусветнай вайны.

У горадзе дзейнічае Дом культуры і некалькі бібліятэк.

### Кепскія дарогі і брудная вада

Да істотных мінусаў горада аднясём кепскія дарогі (асабліва ў дварах жылых дамоў) і жудасна ржавую ваду з-пад крана. Згодна з планамі камунальных службаў, замена камунікацый можа скончыцца ў 2015. Не хочаш чакаць — выйсце ў набыцці фільтраў.

Ёсць пытанні і да агульнай чысціні вуліц. І ўсё ж пэўныя няўручнасці кампенсуюцца добрым паветрам і прыгожай прыродай.

**Сямён Печанка**

# Топ-9 арыштаў у гарадскіх адміністрацыях

А вашага мэра яшчэ не пасадзілі?

Дзеючыя становяцца былымі, а былыя ідуць пад суд. Сёлета завялі некалькі крымінальных спраў супраць кіраўнікоў раёнаў і іх намеснікаў. Што гэта, нежаданне працаваць законна альбо звычайная зачыстка? Мы скалалі ТОП крымінальных спраў супраць былых кіраўнікоў.

### Ігар Васільеў




Былы першы намеснік старшыні Мінгарвыканкама. Яго затрымалі ў ліпені ў працоўным кабінеце пры спробе атрымаць хабар у 250 тысяч даляраў — палова ад сумы, якую ён, на думку следства, вымагаў у еўрапейскага інвестара. Лічба проста фантастычная для Беларусі. Гэтыя грошы павінны былі забяспечыць інвестару вырашэнне пытання на яго карысць, звязанага з заключэннем інвестыцыйнай дамовы на агульную суму больш за $30 млн.

### Віктар Піліпец




Былога мэра Гомеля ўсё-ткі арыштавалі. Па інфармацыі Следчага камітэта, яго затрымалі 19 верасня ў межах расследавання крымінальнай справы ў адносінах да службовых асобаў упраўлення капітальнага будаўніцтва Гомельскага гарвыканкама. Падстава — перавышэнне ўлады альбо службовых паўнамоцтваў.

На «Дажынках» у Горках пра справу экс-мэра ўскосна паведаміў і Аляксандр Лукашэнка. «Некаторыя чыноўнікі, як гэта здарылася ў Гомелі, бралі дзясяткамі кватэры і перапрадавалі... За 20 тысяч куплялі ў дзяржавы, а за 50 перапрадавалі, а грошы ў кішэню».

Крэсла мэра Піліпец пакінуў за месяц за арышту — перайшоў на месца намесніка дырэктара інстытута «Гомельаграпрампраект». Звязвалі пераход з арыштам чатырох супрацоўнікаў упраўлення камунальнага будаўніцтва Гомельскага гарвыканкама.

### Уладзімір Тачыла і калегі



Экс-мэр Полацка **(на фота)** быў затрыманы ў маі. Ён хоць паўтара года як быў, але і арыштавалі за справы мінулыя. Нядаўна назвалі прозвішчы яго падзельнікаў. Гэта намеснік Тачылы **Сяргей Куксаў**, былыя старшыня Полацкага райвыканкама **Валерый Палідавец** і яго намеснік **Алег Ермаковіч**. Паводле следчых, у 2009 яны незаконна выдзялялі для сябе і сваіх блізкіх зямельныя ўчасткі ў Полацку ў зоне ахоўванага ландшафту, на тэрыторыі, прылеглай да Спаса-Ефрасіннеўскага жаночага манастыра. Абвінавачванні выстаўленыя па артыкулах «Наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне гісторыка-культурных каштоўнасцяў або матэрыяльных аб'ектаў, якім можа быць прысвоены статус гісторыка-культурных каштоўнасцяў» і «Злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі». Яшчэ падчас следства шкода ад незаконнай дзейнасці пакрытая ў поўным аб'ёме.

### Мікалай Калеснікаў



Сёлета завялі крымінальную справу супраць экс-намесніка старшыні Рэчыцкага райвыканкама. Падставай стала выдзяленне яму зямельнага надзела. Па матэрыялах Упраўлення барацьбы з эканамічнымі злачынствамі, у лістападзе 2010 Калеснікаў нібыта даў незаконнае ўказанне выдзяліць яму ўчастак пад будаўніцтва дома ў Рэчыцы. Калі летась гэтая гісторыя ўсплыла, рашэнне адмянілі, а Калеснікава пазбавілі пасады. Сёлета абвінавацілі ў перавышэнні ўлады альбо службовых паўнамоцтваў асобай, якая займае адказныя пасады.

### Дзмітрый Яноўскі



У суд перададзеная справа супраць былога першага намесніка кіраўніка Маскоўскай адміністрацыі Мінска. Яго абвінавачваюць у атрыманні хабару ад прад-прымальнікаў за вырашэнне пэўных пытанняў. Сума хабару склала 90 млн рублёў. Падчас следства нанесеная шкода была кампенсаваная.

### Міхаіл Крукоўскі



Экс-першага намесніка старшыні Уздзенскага райвыканкама падазраюць у крадзяжы будаўнічых матэрыялаў сумесна з кіраўніком аднаго камунальнага прадпрыемства (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейснены групай асоб па папярэдняй змове). Па інфармацыі «Ежедневніка», фігуруе нікчэмная сума — 800 тысяч рублёў. Магчыма, гэта не адзіны злачынны факт у справе.

**Сяргей Макарэвіч**

#### Пажурылі, але не пасадзілі

У 2009 старшыню Столінскага райвыканкама Аляксея Дзямко пажурыў тагачасны кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей за сямейнасць у працы. Маўляў, сам кіруе раёнам, у райвыканкам уладкаваў сына, адказныя пасады на Століншчыне займалі іншыя сваякі. Але ні да чаго крытыка не пацягнула: ні да расследавання, ні да адстаўкі.

Толькі сёлета, у лютым, Дзямко пазбавіўся крэсла мэра з падачы старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара — «за правалы ў працы». Але ўжо ў сакавіку яго абралі ў раённы Савет дэпутатаў па Альшанскай выбарчай акрузе, дэпутат якой склаў свае паўнамоцтвы. А затым Дзямко абралі яшчэ і старшынёй савета.

#### «У мяне ўжо двойчы ўзнікала жаданне апячатаць Мінгарвыканкам»

Такое прызнанне зрабіў Аляксандр Лукашэнка ў часе працэдуры ўзгаднення прызначэнняў у сталічнай вертыкалі. Так, Лукашэнка даў згоду на прызначэнне Уладзіміра Кухарава першым намеснікам старшыні Мінгарвыканкама, Андрэя Галя — намеснікам старшыні, Аляксандра Крэпака — кіраўніком адміністрацыі Партызанскага раёна Мінска, Алега Паскробку — кіраўніком адміністрацыі Цэнтральнага раёна.

«Я вам скажу адкрыта, паўтарыўшы недзе: у мяне ўжо двойчы ўзнікала жаданне позна ўвечары замкнуць Мінгарвыканкам, апячатаць усе дзверы на суткі, а з раніцы прызначыць старшыню Мінгарвыканкама, можа быць, нават вайскоўца, «жалезнага» чалавека, які б на працягу кароткага часу пачаў набіраць кіруючы склад, верхавіну гарвыканкама, якія б адсеялі з таго, што ёсць у гарвыканкаме, па мінімуме пакінулі работнікаў і набіралі новых», — сказаў Лукашэнка.

# «Нашага анёла больш няма ў жывых»

У Віцебску школьніка зарэзалі ў бойцы.



Следчы камітэт па Віцебскай вобласці паведаміў, што ўначы на 27 верасня быў знойдзены труп вучня 11 класа. Падазраванага ў забойстве затрымалі. Завялі крымінальную справу, якая прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад шасці да пятнаццаці гадоў.

Больш падрабязнасцяў расказваюць сябры забітага Косці. Яны кажуць, што падлетак уначы пабіўся з 22-гадовым хлопцам. І старэйшы параніў яго нажом.

«Адзін на адзін выйшлі, — кажа сябра забітага Аляксей. — Было 4 гадзіны раніцы. Ніхто не заўважыў, як той хлопец нанёс шэсць нажавых раненняў Косцю. Хлопцы адразу ж выклікалі «хуткую» і міліцыю. Але былі пашкоджаныя важныя органы (сэрца, лёгкія), таму нашага анёла больш няма ў жывых».

Аляксей кажа, што забіты, хоць і быў шчуплым, але не баязліўцам. «Пачалося ўсё з перапалкі на словах. Косцік спартоўцам быў і мог за сябе пастаяць! І ён натоўк макаўку непрыяцелю, калі той збоку падрэзаў Косцю. Пакуль хлопцы спахапіліся, ён кінуўся збягаць. Але яго дагналі і размалацілі...»

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### Шпіёнскія штучкі

Супрацоўнікі ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці затрымалі 46-гадовага беспрацоўнага жыхара Брэста, які спрабаваў арганізаваць пастаўку з Польшчы ў Беларусь спецсродкаў, прызначаных для тайнага атрымання інфармацыі. У мужчыны пры спробе збыту канфіскавалі сонцаахоўныя акуляры з убудаванай электроннай апаратурай — відэакамерай і дыктафонам.

### Засыпала пяском

У парку ў Баранавічах на будпляцоўцы пункта грамадскага харчавання праводзіліся земляныя работы па пракладцы адводу каналізацыйных труб. У яме раптам абрынуўся пясок. 18-гадовага рабочага засыпала пяском па галаву, хлопец не мог дыхаць. Яго шпіталізавалі з дыягназам механічная асфіксія, закрыты пералом шыйнага аддзела хрыбетніка, клінічная смерць. Лекары ацэньваюць яго стан як вельмі цяжкі.

### Выпадкова загінуў

У Іванаўскім раёне 10-гадовы хлопчык з трыма дзецьмі-аднаяскоўцамі гуляў у закінутым доме. Ён узяў дрот ад свяцільніка, зачапіў яго за цвік у бальцы ды завязаў на шыі пятлю. Калі ён спрабаваў пералезці з ложка на крэсла, тое ўпала, і дзіця павісла ў пятлі. Медыкі зафіксавалі смерць.

**КМ**

# Калі ў Маскве гаварылі па-мангольску

Новы расійскі фільм **«Арда»** ламае гістарычныя стэрэатыпы.

Сюжэт новага расійскага фільма «Арда» грунтуецца на зафіксаваным у летапісах выпадку.

Сярэдзіна XIV стагоддзя. Тайдула, маці хана Залатой Арды Джанібека, захварэла і выклікала да сябе маскоўскага мітрапаліта Аляксія. Той яе вылечыў малітвамі, і ў памяць пра гэта ў Маскве быў заснаваны Чудаў манастыр. Праўда, ёсць версія, што хварэла не Тайдула, а сам Джанібек. А яе «слепату» прыдумалі, каб схаваць інфармацыю пра хваробу хана. Бо і ў тыя дзікія часы ад здароўя кіраўніка дзяржавы наўпрост залежала трываласць палітычнай сістэмы.

Мітрапаліт Аляксій — адна з найцікавейшых постацяў свайго часу. Ён быў аўтарам ідэі «збірання» земляў вакол Масквы, фактычна рэгентам пры маладым Дзмітрыю Данскім, ініцыяваў будаўніцтва «белакаменнага» Крамля, які не змаглі ўзяць нашы продкі пад загадам вялікага князя Альгерда.

Яскравае гістарычнае кіно ад рэжысёра Андрэя Прошкіна? Напалову.

Гэтая палова — першая. Дух эпохі падкрэслены мангольскай мовай герояў (як манголаў, так і маскоўцаў), чорным гумарам тых чорных часоў, прасякнуты простай мангольскай ідэалогіяй: «мы не злыя, нам проста трэба прастора, каб пасвіць авечак». (У XX стагоддзі такія погляды назвалі нацызмам.)

Без ідэалагічных шораў паказаныя адносіны Арды і Масквы, іх падабенства — нормы эліты, вечная пагроза голаду. Тут аўтары фільма блізкія па поглядах да «еўразійцаў» пачатку XX стагоддзя, Гумілёва і Блока, якія абвяшчалі: «Так, скіфы мы, так, азіяты». Масква ўспрымаецца як частка Арды, толькі праваслаўная. Цудоўна сыграў Віталій Хаеў цынічнага маскоўскага князя Івана Краснага. Князь успрымае татарву як непазбежнае зло, трымаецца запанібрата з ханскімі слугамі і, як толькі Аляксій выязджае за браму лячыць Тайдулу, прызначае новага мітрапаліта і загадвае рыхтаваць скарб, каб адкупляцца ад будучага татарскага наезду.

«Арда» нагадвае «Мангола» Бекмамбетава, але без эпічнага пафасу апошняга. Пафас у «Ардзе» іншы: «духоўны». Ён праяўляецца ў другой частцы карціны і зводзіць на нішто сюжэтную дынаміку.

Аляксію не ўдаецца зрабіць «цуд» і вылечыць Тайдулу — зараз хан спаліць Маскву. Уладыка пакутуе, добраахвотна праходзіць у Ардзе «колы пекла», каштуе рабскага хлеба, губляе надзею. І тут раптам выяўляецца, што Тайдула адужала. Цягам амаль гадзіны гледачу даводзіцца правільная думка, што нават на вяршыні духоўнай і свецкай улады нельга ганарыцца. Бо цуды робіць не чалавек, але Бог праз чалавека. Цуд як вынік прасвятлення пасля перажытых пакутаў — як у «Цары» Лунгіна.

Поўнай перамогі дабра над злом, тыповага для блакбастара, не выйшла. Бо і ў XIV стагоддзі цяжка было іх адразу распазнаць.

Што ж у выніку? У Ардзе зноў пераварот, да ўлады прыходзіць унук Тайдулы, бабуля адмаўляецца яго дабраславіць, скача ў цемру са стойбішча. На Арду насоўваюцца міжусобіцы. Аляксій з'язджае ва ўратаваную ім Маскву, якую чакае цэнтралізацыя і перамога над Ардой. Пра ўсё гэта паведамляе гледачам закадравы голас у канцы фільма.

**Сяргей Мікулевіч**



# Аўтар эталона

Ад 4 кастрычніка ў Гістарычным музеі — класічныя плакаты **Уладзіміра Крукоўскага**.




**Гэты плакат да першай пастаноўкі «Сівой легенды» зарэзалі цэнзары.**

Выстава прымеркаваная да 75-годдзя, якое мастак адсвяткаваў сёлета ў сакавіку. У Гістарычным выставяць больш за сорак яго плакатаў з музейных збораў.

Выбраць музею ёсць з чаго: Крукоўскі падарыў яму 97 сваіх прац. Мастак не трымае твораў дома: «Мае плакаты ёсць амаль ва ўсіх музеях: у Музеі сучаснага мастацтва, у Музеі гісторыі літаратуры. У БНФ вісяць таксама... Я проста ведаю выпадкі, калі мастакі паміралі і невядома куды дзяваліся іх працы. Калі памёр Яўген Кулік, дык сваякі прывезлі машыну, пагрузілі ягоныя творы і кудысьці адвезлі. Куды — невядома».

Затое ў светлай мансардзе на Ракаўскім, дзе знаходзіцца студыя Уладзіміра Крукоўскага, ёсць карціны Алеся Пушкіна. «Алесю не было дзе захоўваць свае працы, — тлумачыць Крукоўскі. — А калі хто-небудзь хоча купіць у яго карціну, то даводзіцца ехаць у Бобр, але гэта для заказчыкаў не вельмі зручна. Вось я яго і пусціў».

Плакаты Крукоўскага сталі класікай беларускага мастацтва. Аднак галоўным творам у жыцці Крукоўскі лічыць не плакаты, не эскізы талераў — грошай незалежнай Беларусі з выявамі гістарычных дзеячаў, — а эталон дзяржаўнага герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сцяга, створаныя супольна з Яўгенам Куліком.

Стварэнне герба заняло тры месяцы, было шмат спрэчак. «Ёсць жа розныя варыянты «Пагоні» — ад часоў князя Віцення да сімволікі беларускай эміграцыі, — кажа Крукоўскі. — Там і барочныя, і рэнесансныя, і мадэрновыя версіі. Але мы абралі за аснову гатычную, як на грабоўцы Ягайлы, бо менавіта такая «Пагоня» была ў часы Грунвальдскай бітвы».

Аднак і да створанага герба выказваліся прэтэнзіі. «Чаму гэта ў вас конь такі цяжкі, на ім толькі зямлю араць, — казалі нам, — смяецца Крукоўскі. — Мы тлумачылі, што рыцарскія коні не былі легканогімі, бо і даспехі, і зброя важылі шмат. Пасля казалі, што шпора занадта доўгая. Мы на гэта адказвалі, што мы арыентаваліся на італьянскую статую кандацьера тых часоў, дзе шпора такая самая доўгая. Яшчэ казалі, што крыж не роўнаканцовы. Але мы за эталон крыжа ўзялі крыж Лазара Богшы».

Ці падказвае новы час тэмы для новых плакатаў? Мастак лічыць, што плакатны жанр загінуў: «Гэты жанр забілі дызайнеры. Плакаты ствараюцца з таго, што дызайнеры знаходзяць у інтэрнэце. Кожны мастак, нават самы выбітны, абавязкова зробіць хаця б невялікую памылку ў сваёй працы, і менавіта гэтая памылка ажыўляе яе. А цяпер што? Ні сядзець, ні выдумляць нічога не трэба, ні алоўкам працаваць, ні пэндзлем».

З гэтага гледзішча найлепш, кажа Крукоўскі, яму працавалася за савецкім часам. Хоць тады былі іншыя праблемы. Напрыклад, цэнзурныя мастацкія саветы, якія «зарэзалі» многія яго працы. Як афішу першай пастаноўкі оперы «Сівая легенда», створаную ў 1978 годзе. У мячы эксперты ад партыі разгледзелі крыж.

Цяпер Крукоўскі займаецца геральдыкай — рыхтуе перавыданне кнігі «Срэбная страла ў чырвоным полі», прысвечаную гербам беларускай шляхты. Мастак дапрацаваў яе, дадаўшы да 200 гербаў, што там былі, выявы яшчэ пяцідзесяці.

**Гутарыў Юрась Ускоў**

**Выстава плакатаў Уладзіміра Крукоўскага «Старонкі гісторыі»**

пройдзе 4—25 кастрычніка ў Нацыянальным гістарычным музеі (Маркса, 12).



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Атаманчык пераключыўся на кнігі

«Беларускія старонкі Вільні» — дзве кнігі пад такой назвай склаў выпускнік Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, журналіст і блогер Кірыл Атаманчык. Першая мае падзагаловак «Ля вытокаў незалежнай Беларусі (сярэдзіна XIX — першая палова XX ст.)», другі — «Адукацыя». Першая кніга самакаштоўная, другая выглядае рэверансам у бок Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, што спрыяў у выданні.

Кнігі маюць форму даведнікаў. Усю інфармацыю, што ў іх ёсць, можна адшукаць у інтэрнэце і ранейшых крыніцах, але сабраць яе разам ніхто не паспрабаваў. У кнігах — кароткія артыкулы і сучасныя фота мясцін, звязаных са слаўнымі дзеячамі і старонкамі нашай мінуўшчыны. Каліноўскі, Багушэвіч, Станкевіч, «Наша Ніва», БНР, Беларуская гімназія, дамы марыянаў, Шырма, Сергіевіч... Падбор уражвае. Якое ж мноства беларускіх адрасоў захавалася ў сённяшняй літоўскай сталіцы!

Кнігі выйшлі на дзвюх мовах: беларускай і літоўскай.

У прадмове аўтар адзначае, што на працу яго натхніла кніга Лявона Луцкевіча «Вандроўкі па Вільні», што выйшла ў 1998. «Вандроўкі...», напісаныя сынам заснавальніка «Грамады» і «Нашай Нівы», мелі мемуарны прысмак, былі хутчэй падручнікам па гісторыі Беларускай Вільні.

Атаманчыкава кніга больш сціслая, але і больш функцыянальная. Артыкул пра кожны адрас суправаджае мапа з пазнакай гэтага месца на плане горада. З дапамогай кнігі кожны можа зладзіць сабе індывідуальную экскурсію па Беларускай Вільні. «Старонкі...» можна спампаваць у інтэрнэце на сайце vilniaby.com.

Перад паездкай у Вільню варта прачытаць Луцкевіча, каб натхніцца, але арыентавацца ў Крывіцкай Мецы будзе прасцей па кнізе Атаманчыка.

**Яўген Квач**

# «Выкрывайце гэтых чарвякоў!»

**Споведзь студэнта БНТУ, які такі прагаласаваў датэрмінова.**

Высветлілася, я адзіны з групы не прагаласаваў датэрмінова. У пятніцу да мяне падыходзіць куратарка групы. І тут пачынаецца самае цікавае:

— Максім, — кажа яна мне, — ты адзіны, хто не прагаласаваў з групы...

— І што? — пытаю.

— Добра... Табе ў гэтым семестры здаваць мне курсавую і экзамен, разумееш?

Як бы гэта ні было зневажальна, але я пайшоў на гэты дзёўбаны выбарчы ўчастак... Усё шляхам шантажу і запалохванняў у нас робіцца. Я разумею, што гэта не яе капрыз, яна проста «пешка», якой кіруюць з дэканата. Але ўсё роўна вельмі непрыемна.

**Максім, студэнт БНТУ**

## «Мы недурныя і ўсё бачым»

Па словах студрады інтэрната, прыходзіў нейкі чалавек «зверху» і загадаў зрабіць 99-працэнтную яўку на выбарах. Таксама выхавацелькамі інтэрната праводзіўся штодзённы ўлік тых, хто прагаласаваў.

Ніякай патрэбы галасаваць раней часу ў студэнтаў няма. І яўка на выбары, па законе, добраахвотная. Але ж невыпадкова нас так настойліва гналі на датэрміновае галасаванне. Відаць, хацелі падмяніць нашы бюлетэні ў скрынках уначы, каб стварыць ілюзію «народнай падтрымкі». А мы недурныя і ўсё бачым.

**ХЗ, Полацк**

## «Уся Беларусь вешаецца», або Рэальны анекдот з выбарчай кампаніі ў Дзятлаве

Заходзіць у краму чалавек у спартыўным касцюме (прапаганда здаровага ладу жыцця, мусіць), кандыдат у дэпутаты палаты прадстаўнікоў, член Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Звяртаецца да загадчыка крамы з просьбай развесіць лістоўкі са сваёй праграмай. Яму адмаўляюць са спасылкай на санстанцыю, якая забараняе вешаць на сцены крамы якую б то ні было паперу. На што лапатат выдае: «Да у нас вся Беларусь перед выборами вешается!» Пасля чаго, поўны адчування ўласнай годнасці, расклаў паперы са сваёй праграмай на паліцу крамы.

**Наста, Дзятлава**

## Мёртвыя душы: на выбары запрасілі маю памерлую бабулю

Мой недзеяздольны дзядуля, інвалід 1-й групы, жыве ў вёсцы Крапужына Лагойскага раёна. Вёска належыць да Астрошыцкага с/с. Дык майму дзядулю прынеслі запрашэнні паўдзельнічаць у выбарах. Што цікава, запрасілі таксама і маю бабулю, якая памерла амаль два (!) гады таму. Пасведчанне аб смерці выдавала адміністрацыя таго самага Астрошыцкага с/с.

**Дар'я Зялінская, Мінск**

## «Непатрэбная салома», паляць проста ў полі

На выходных гасцявала ў сваёй матулі ў вёсцы Сцеркава (Лідскі раён). Вечарам у пятніцу 21 верасня мы з матуляй пілі гарбатку, размаўлялі пра жыццё-быццё, як раптам хату запаланіў едкі пах дыму. Я спачатку падумала, што суседка паліць апалае лісце, але на самой справе ўсё аказалася цікавей.

У акне мы ўбачылі нейкія вогнішчы на полі, што цераз вуліцу. Захапіўшы фотаапарат, пайшлі разабрацца, што ж там адбываецца... Гарэлі калгасныя рулоны з саломай!

Нейкія мужчыны праходзілі побач і на наша пытанне патлумачылі, што «напэўна, гэта трактарысты падпалілі качулкі, бо яны былі дрэнна звязаныя». Пры гэтым мужчыны абураліся, што калгасу (СПК «Бердаўка-АГРА») лягчэй падпаліць няякасна звязаныя цюкі, чым вывезці іх з поля.

Асабіста мяне здзівіла адсутнасць побач пажарнай машыны ціназіральніка, бо хаты і хлявы аднавяскоўцаў стаяць блізюткa ад вогнішчаў. Не ведаю, можа гэта нармальная і звычайная з'ява для нашых калгасаў — знішчаць такім чынам «непатрэбную салому», але я была ў шоку.

**Аленка С., Лідскі раён**

## «У ЗША на Дажынкі людзі ходзяць у гумовых ботах»

«Дзіўна, чаму людзі не ходзяць на такія дыснэй-лэнды ў гумовых ботах? — так адрэагаваў на фотарэпартаж Сяргея Гудзіліна з Дажынак (№36) наш чытач з Амерыкі George. — На захадзе гэта даўно прынята: фестываль пад адкрытым небам або скокі на іпадроме — многія прыходзяць у гумовых ботах ад Gucci або Ralph Lauren еўра за 200 — і ўсё крута, нармальна апранаючыся. Апранацца трэба па надвор'і і па ландшафце, так бы мовіць. А то скачуць на абцасах або ў вастраносых туфлях па гразі як ідыёты. І незразумела, што з'яўляецца першаснай дурасцю — ці то арганізатары свята ў брудзе, ці то людзі, якія прыйшлі на свята ў брудзе, апранутымі, як на дыскатэку».

**George**



дэйлі мэйл

Передавыя калгасніцы Аёваў апранаюцца во так.

## «Дзякуй тым, хто вывесіў сцяг над МКАД»

**Мы пабачылі яго а 7-й раніцы 22 верасня каля Сухарава.**

Паважаная рэдакцыя, хачу праз вас падзякаваць тым цудоўным людзям, якія зрабілі ў суботу мой дзень. Тым невядомым, што ўначы вывесілі над мінскай кальцавой бел-чырвона-белы сцяг.

Такі быў прывет тым, хто суботняй раніцай вымушаны кудысьці ехаць. Гэта найлепшы адказ на змрочныя думкі і прагнозы. Мы пабачылі наш сцяг на парэнчах пешаходнага перахода над кальцавой, каля Сухарава. І адразу падумалася, што, нягледзячы на ўсе фальсіфікацыі, уцiск Беларусь будзе жыць.

**Паўліна Купрысь, Мінск**

# Беларуская глыбіня. **Цэнтр прасторы**

Піша **Павел Севярынец**.

*Па ўсёй зямлі
праходзіць іхні гук,
і па край свету
Словы іхнія.
Псальма 18:5*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Гэты таемны туманны бераг, дзе вада — да далягляду і дзе мяжой між зямлёй і небам адно лёгкая, пяшчотная смуга, мне давялося ўбачыць упершыню на першым курсе геалогіі БДУ. Наша намётавае мястэчка падчас тыдня берасцейскай практыкі размясцілася якраз тут, ля найвялікшага на Палессі вадасховішча.

Праз тое, што з ваколіцаў Сяльца і род Уладзіміра Высоцкага, і Андрэя Макарэвіча, і Анатоля Папанава, я даведаюся пазней. Але і тады было, было смутнае адчуванне, што менавіта адсюль, з узмежжа Белавежскай пушчы, дзе ціхая Ясельда раптам разліваецца шырэй за Дняпро, пачуеш нешта такое:

Звон зазвінеў…
Прастора
Займела цэнтр.

Гэта адсюль, з гэтага чуйнага беларускага слыху, з усхваляванага баравымі ўзгор'ямі ціхага абшару духу, ад найвялікшага на Палессі люстра нябёсаў — найвядомейшы ў свеце (калі верыць Вікіпедыі) беларускі паэт сучаснасці, аўтар геніяльных радкоў пра «цэнтр прасторы» Алесь Разанаў.

Яшчэ мае бацькі, што навучаліся на філфаку ў 1970-х, згадвалі як легенду «Справу Разанава» — калі на ініцыятыву сялецкага студэнта сотні навучэнцаў ды выкладчыкаў падпісалі ў ЦК КПБ заяву з патрабаваннем выкладання па-беларуску. Потым было выключэнне, праца, пераклады Шэкспіра, Басё — і вершы.

Яно заўсёды здумявае, уражвае да немасці перад веліччу: як у гэтых затуманеных, забытых, здавалася б, нязначных ды закінутых мясцінах няўзнак фармулююцца адкрыцці і ясна крышталізуюцца словы, накіраваныя ўсяму чалавецтву.

Няма, не было — і раптам Ёсць. Эфект цуду.

У гэтым увесь Разанаў, каторы адчыняе ў забытым, знаёмым, быццам бы неістотным беларускім — Боскую глыбіню.

Перакладаю шэпт дажджу,
пагляд вачэй,
трымценне гаю…
Кранаю,
слухаю,
гляджу,
я не пішу — перакладаю.

Каго насамрэч, пішучы вершы, перакладае Разанаў?..

Сам Сялец — старажытнае мястэчка, уладанне знакамітай каралевы Боны, Кішкаў ды Сапегаў, паселішча засцянковай шляхты і парламенцкая сталіца ліцвінскага габрэйства: ад 1623 да 1764 з 37 сесіяў Літоўскага Ваада (найвышэйшага органа габрэйскага самакіравання) 12 прайшло ў Сяльцы — да прыкладу, Берасце прынялo толькі 5 пасяджэнняў, а Гародня — 2. Маючы магдэбургскі герб з двума крыжамі — праваслаўным і каталіцкім, — Сялец ужо ў часы ВКЛ стаў жывым цэнтрам крышталізацыі трыадзінай беларускай ідэі: на галоўнай плошчы — царква, касцёл і пратэстанцкі збор.

Тутэйшыя назвы, любоўна сабраныя сялецкім краязнаўцам Мікалаем Пейганам — быццам дотыкі невынішчальнае беларускасці: Кут, Корчыкі, Лаз, Алёс, Даткі... і тут жа габрэйскае прадмесце — Фарштат.

Ці ж не тут, у старажытным Сяльцы, карані ды крыніцы таго ўнікальнага перастварэння, або *ўзнаўлення*, як кажа сам Разанаў, класічных старабеларускіх хрысціянскіх тэкстаў — «Прадмоваў» Скарыны, «Словаў» Тураўскага, «Плачу» Сматрыцкага, якім займаецца зараз аўтар наватвора «зaўзятар», сам заўзятар новых формаў творчасці ды перакладу?..

Вершы Разанава перакладзеныя больш як на 20 моваў свету. Праз Разанава, які пачаў пісаць па-нямецку, ціхая, нясмелая Беларусь раптам загаманіла на ўсю Еўропу — зборнікам Wortdichte. Цяпер з гэтай беларускай ваколіцы, каторую за нямецкай акупацыі дзеля *арыйскіх* прыкметаў насельнікаў уключылі ў тэрыторыю Райху, — і наш найвядомейшы перакладчык з нямецкай Сёмуха, і беларускі «нямецкі» паэт Разанаў.

А Сялец паціху затухае. Пусцеюць і дагніваюць хаты. Няма ўжо габрэйскага Фарштата. На выходных паўз берагі вадасховішча бухае моладзь з усяго наваколля. Сялец рассяляецца ды сціваецца...

Але.
Калі ўсе згубленыя ключы,
калі ні шанцу,
анічога —
усё ж ідзі,
любі,
крычы
і пасягай на перамогу.

Глядзіш то скрозь слёзы, то з лёгкім уздыхам на гэты поўны невымоўнае ласкі край, дзе ўсё так смутна, размыта, распушчана, стоена — і вершы: яшчэ крыху... вось зараз... раптам пачуецца звон.

Прастора займае цэнтр.

І ўсе, хто застаўся ў жывых, зразумеюць: тут Бог.

*Куплін*

**Няма, не было — і раптам Ёсць**

# Іспанскі Крым

Пра адпачынак у Валенсіі піша **Сяргей Харэўскі.**

У Валенсіі горача і суха, там п'юць шакалад і віно ды чакаюць, пакуль міне крызіс. Там ёсць і свая іспанская Ялта — курортная зона горада Алікантэ, што расцягнулася на 150 км ад мяжы з Мурсіяй. Як і ў паўднёвы Крым, сюды цягнуцца амтары пляжнага адпачынку — пенсіянеры і бацькі з малымі дзецьмі.



Саланчак Салінас дэ Тарэўеха ператварыў рыбацкую вёску ў курорт.

### Лічбы

Першае, у што ўтаропліваешся ў вялізарным, утрая большым за мінскі, аэрапорце Алікантэ — табло з указаннем геаграфічных каардынатаў: 0°29′00″ з. д. (G) (O). Гэта той самы нулявы мерыдыян, што і ў Грынвічы. Пералёт сюды з Коўна каштуе 125 еўра ўлетку і каля 60 увосень. Ад Алікантэ да Тарэўехі, дзе мне давялося пабавіць адпачынак, — 45 км на аўто.

Тая Тарэўеха азначае «старая вежа». І насамрэч тут, на колісь бязлюдных пагорках, стаяць вежы, што служылі і крэпасцямі, і рыбацкімі маякамі. Вежа ўпрыгожвае і герб горада, у якім жыве блізу 100 000 чалавек. З іх толькі 46,4% — грамадзяне Іспаніі, а 53,6% — немцы, брытанцы, скандынавы, афрыканцы, расейцы, арабы, кітайцы...

### Краявіды

Па дарозе ад аэрапорта Алікантэ ў Тарэўеху за акном бачыш толькі пустынную роўнядзь. На даляглядзе яна павольна ўздымаецца горным хрыбтом, адразу за якім — прамысловая правінцыя Мурсія. Над ёй стаяць у небе слупы дыму і пары з заводскіх комінаў. Вусцішнае і велічнае відовішча. Тут разумееш, што гэтая краіна жыве не карыдаю ці фламенка, а магутнай прамысловасцю.

Іспанія — пятая эканоміка на кантыненце. І гэта бачна тым лепей, чым далей ад'язджаеш ад мора. Паўсюль заводы, фабрыкі, склады, гусцюшчае сеціва дарог і электрычных дратоў.

Напрыклад, наша курортная Тарэўеха — еўрапейскі экспарцёр солі №1. Прычым Салінас дэ Тарэўеха, тамтэйшыя саланчакі з азёрамі, — яшчэ і нацыянальны прыродны парк. Выгляд сюррэалістычны: чырвоная выпаленая зямля, блакітнае неба, кіслотна-бэзавыя, ліловыя воды азёраў, у якіх стаяць бела-ружовыя фламінга... І паветра — нібы ў печы — такое сухое і гарачае, што нават дыхаць спачатку страшна...

### Літары

Што шчыра здзівіла ў курортнай іспанскай правінцыі — людзі там чытаюць. А пляжныя бібліятэкі працуюць да другой гадзіны ночы. І часам пасярод ночы ўтвараюцца чэргі з чытальнікаў розная веку! У бібліятэках і кнігарнях — выдатны выбар іспанскай і каталанскай класікі, кнігі усіх нобелеўскіх лаўрэатаў, літаратура па філасофіі і гісторыі, культуралогіі і псіхалогіі. А ў газетных шапіках тут перыёдыкі болей, чым у сталіцы РБ. Нават тамтэйшыя немцы маюць уласную газету, таўсцейшую за «Советскую Белоруссию».

А наогул, там літаратуры вельмі шмат паўсюль, бо, адпаведна закону, тут усё дублюецца па-каталанску і па-іспанску — на квітках, на пачках масла, на цэтліках і мемарыяльных таблічках...

**Тарэўеха**

горад і муніцыпалітэт у Іспаніі, уваходзіць у правінцыю Алікантэ ў складзе аўтаномнай супольнасці Валенсія. Плошча 71,44 км. Насельніцтва 100 000 чалавек.

Адпачынак у Валенсіі сям'і з трох чалавек (двое дарослых і дзіця) абыйдзецца ў 2000 еўра. У гэтую лічбу ўваходзіць кошт дарогі, гатэля, харчавання, неабходных страховак і г.д.



У Валенсіі няма патрэбы ў чужой папсе.





Разынка курорта — начныя кнігарні і бібліятэкі.

### Словы

Хоць у горадзе і жывуць грамадзяне са 120 краінаў, валенсійцы не абцяжарваюць сябе вывучэннем чужых моваў. Нават арабы з кітайцамі тут гавораць толькі па-іспанску. Калі не можаш, гандляры і абслуга без ценю ўсмешкі пачынаюць мацней жэстыкуляваць, паказваць цэтлікі або варыянты меню на іншых мовах... Затое праз колькі дзён я, наталдыкаўшыся на слых, з асалодаю імітаваў веданне іспанска-каталанаска-валенсійскай гаворкі, дамаўляючыся з тубыльцамі на рынках, у транспарце і ў кавярнях. І яны мяне разумелі! І я рабіў выгляд, што разумею іх.

### Гукі

Абыякавасць правінцыйных валенсійцаў да чужых моваў стала больш зразумелаю, калі я ўключыў тэлевізар. Пабачыўшы процьму іспанамоўных каналаў, зразумеў, што іх свет вялізарны, ад Мадрыда і Экватарыяльнай Гвінеі да Мексікі і Аргенціны. Між іншым, там ёсць паралельныя кругласутквавыя тэлеканалы па-каталанску: для дзяцей, для падлеткаў, навінавы, краязнаўчы і г.д.

Здзівіла і адсутнасць англамоўнай поп-музыкі на тэлеканалах, FM-станцыях, у кавярнях і ў дансінгах... Тут хапае ўсяго свайго. А па вечарах на залітых святлом набярэжных пад пальмамі пяюцьзаліваюцца тутэйшыя Бартосікі і мар'ячыс з Мексікі і Эквадора ды богведама яшчэ адкуль.

### Помнікі

Дзецям там — рай! Бо ў кожным квартале ёсць дзіцячыя пляцоўкі, непадобныя адна да адной. А мне там было сумнавата, бо люблю занурвацца ў атмасферу даўніны. У «Старой вежы» няма амаль нічога старога. Апроч старых дзядоў і страсвецкай плошчы з галоўным касцёлам. Яшчэ ёсць даўні палацык тутэйшага муніцыпалітэта, старая аптэка ды шакаладня XIX ст., водар ад якой чуваць за кіламетр. І шыкоўнае казіно ў духу правінцыйнай эклетыкі. А вакол — горад памерам з Баранавічы, пальмы і мора.

### Пляжы

У Тарэўесе пляжы адны з найлепшых у Еўропе, цягнуцца 20 кіламетраў. Пляжы абсталяваныя фантанчыкамі, душамі, прыбіральнямі. Бясплатнымі! У горадзе таксама ёсць аквапаркі, спартовы цэнтр з крытым басейнам, стадыёны, тэнісныя корты, палі для гольфа і рэгбі... Калі аб'язджаеш усе гэтыя спартовыя спаруды, мінаеш зіхоткі мармуровы пляц перад Муніцыпальным тэатрам разумееш: крызіс быў немінучы. Не думаць пра ўзаемасувязь празмерных выдатаў і фінасавага крызісу сама лепей пад вадой. Але я болей люблю нырцаваць пад скаламі, цікуючы за разнастайнымі марскімі стварэннямі, якіх тут — безліч!

### Ежа

Большасць мясцовых пенсіянераў харчуецца дома, смажачы на выдатным тамтэйшым аліўкавым алеі, што каштуе, як вада, свежую рыбу. Затым адчыняюць усе шыбы і выходзяць падыхаць начным паветрам, усеўшыся на крэслах уздоўж ходнікаў. Пахі збіваюць з ног на кірмашы, што ладзіцца тут па пятніцах. Усе фарбы і смакі тамтэйшай зямліцы перад вамі! Суровыя валенсійцы, якія мне нагадалі дагестанцаў і чачэнцаў, не надта і гандлююцца. Тры дыні любога памеру — за еўра! Узяўшы кілю персікаў ці абрыкосаў за 50—70 цэнтаў, можна атрымаць бясплатны давесак. Дарэчы, і ў крамах там невераемны асартымент сыроў, кілбасаў, кумпякоў мала чым розніцца па цане ад рынку. Усё танней, чым на мілай Бацькаўшыне...

### Суседзі

У натоўпе падчас вечаровага дэфіле па бульварах і набярэжных пачуеш і польскую, і літоўскую, і ўкраінскую мовы. Дарэчы, украінскія грэка-каталікі маюць рэгулярныя багаслужбы ў мясцовай Катэдры. Суседзямі могуць апынуцца і зычлівыя калумбійцы, і куртуазныя французы, і ветлівыя арабы, і вясёлыя венесуэльцы. На пляжах дзеці з усіх канцоў свету змешваюцца ў вясёлую куламесу і лёгка знаходзяць агульную дзіцячую мову.

### Сонца

Тая ж тэмпература, што і ў ліпеньскі сквар у Мінску, на ўзбярэжжы Валенсіі пераносіцца інакш. Перадусім праз прыстасаванасць раскладу дня, побыту і архітэктуры да празмернага сонца. У Тарэўесе багата пешаходных вуліцаў, каб можна было і ў цень схавацца, і нешта набыць, і глынуць паветра. Нават калі спецыяльна не загараеш на пляжы, блікі і рэфлексы ад усіх сценаў і вокнаў нададуць табе роўнае залацістае адценне. А сонца тут — 360 дзён на год, болей чым дзе ў Еўропе. Бо да Афрыкі адсюль бліжэй, чым да Мадрыда: проста праз мора. І так амаль увесь год, да Калядаў. А там ужо зіма: становіцца прахалодна і ветрана, як на Балтыцы ўлетку.

## ХАКЕЙ

### Коваль і Угараў у гасцях у «Дынама»

**У рамках Кантынентальнай хакейнай лігі 4 кастрычніка сустракаюцца мінскае «Дынама» і «Тарпеда»** (Ніжні Ноўгарад). За гасцей выступаюць хакеісты зборнай Беларусі Віталь Коваль і Аляксей Угараў. Пачатак а 19-й.

## ФУТБОЛ

### 27 тур

**7 кастрычніка** адбудуцца матчы чарговага тура чэмпіяната Беларусі па футболе: «Гомель» — «Славія» (Мазыр), «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Мінск», «Дынама» (Мінск) — «Нафтан» (Наваполацк), «Нёман» (Гродна) — «Брэст», «Белшына» (Бабруйск) — БАТЭ (Барысаў).

## ІМПРЭЗЫ

### «Шалі»




**6 кастрычніка, 18:00. Незалежнасці, 4.** У памяшканні тэатра «На балконе» адбудзецца прэзентацыя кнігі Змітра Баяровіча «Шалі».

### Талькаўскі фэст — 2012

**Свята бардаў, паэтаў, аматараў народных песень, танцаў і гульняў адбудзецца 7 кастрычніка**, у нядзелю. Збор а 12 гадзіне ля клуба ў вёсцы Талька (Пухавіцкі раён). Даехаць з Мінска можна электрычкай (кірунак — Асіповічы).

### Паэзія архітэктуры

**4 кастрычніка ў сядзібе ТБМ адбудзецца прэзентацыя кнігі «Паэзія архітэктуры»** вядомага даследчыка беларускага дойлідства, доктара навук, прафесара Тамары Габрусь. Пачатак а 18-й. Уваход вольны.

### Мосар запрашае на святкаванне дня цвярозасці

**Запрашаем усіх ахвотных 6 кастрычніка**, калі адзначаецца Сусветны дзень цвярозасці, адзначыць юбілей Алеі цвярозасці ў Мосары. Урачыстая літургія з працэсіяй і святкаваннем пачнецца а 18-й. Падрабязная інфармацыя — на сайце mosar.vickyblog.com.

### Белтэкслегпрам

**31-ая міжнародная спецыялізаваная выстава-кірмаш** па продажы тавараў лёгкай і тэкстыльнай прамысловасці. Выстава пройдзе 2-5 кастрычніка ў «Белэкспа».

## КАНЦЭРТЫ

### Sunduk

**8 кастрычніка а 19-й у Малой зале к/з «Мінск»** (Кастрычніцкая, 5) — Sunduk.

### Рокаш і Pawa

**4 кастрычніка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт неафолк гуртоў «Рокаш» і Pawa.

### Кароль і Шут

**У клубе Re:Public 4 кастрычніка** пройдзе канцэрт расійскага гурту «Кароль і Шут». Пачатак а 19-й.

### Madera Hard Blues

**5 кастрычніка а 19- й у «Графіці» (зав.Калініна, 16**) — Madera Hard Blues.

### Аляксей Шадзько

**5 кастрычніка ў КЗ «Мінск»** эксклюзіўны канцэрт Аляксея Шадзько. Пры ўдзеле Уладзіміра Ткачэнкі, Ігара Леўчука, Анатоля Каляды. Білеты — 80—90 тысяч рублёў.

### Час і постаці

**10 кастрычніка а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі** — тэатральна-канцэртны праект «Час і постаці», прымеркаваны да 100-годдзя з дня народзінаў Максіма Танка.

## ВЫСТАВЫ

### Беларуская посцілка

**У «Музеі беларускага народнага мастацтва» ў Раўбічах да 30 лістапада** працуе выстава «Беларуская посцілка», на якой можна ўбачыць цудоўныя ўзоры дэкаратыўных даматканых тканінаў.

### Лешак Жаброўскі

**Па 20 кастрычніка ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава плаката і графікі Лешака Жаброўскага (Польшча).

### Я заўжды помню голас Твой

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа працуе выстава «...Я заўжды помню голас Твой»**, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка.

### Калекцыя экслібрыса

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Калекцыя экслібрыса», прысвечаная 15-годдзю музея. Да свайго юбілею музей прадстаўляе міжнародную выстаўку з музейных фондаў — калекцыю экслібрыса (ex libris — з лац. «з кніг» — «кніжны знак»). Працуе па 6 кастрычніка.




## ТЭАТРЫ

### 3 кастрычніка

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 4 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Лялек** — «Вянчанне»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Купалаўскі** — «Востраў Сахалін»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

### 5 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлярой»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Лялек** — «Шоўк»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 6 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Оперы і балета** — «Сэрэнада. Шахеразада»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 7 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Оперы і балета** — «Сэрэнада. Шахеразада»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 8 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Хам»

### 9 кастрычніка

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»

### 10 кастрычніка

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»

### 11 кастрычніка

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 12 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»

## КІНО




### Пятля часу

**Жанр:** баявік, фантастыка
**Рэжысёр:** Раян Джонсан
**Акцёры:** Эмілі Блант, Джозэф Гордан-Левіт, Пол Дано, Брус Уіліс, Джэф Дэніэлс
**У пракаце да:** 10 кастрычніка 2012
ЗША, Кітай, 2012, 118 хв.

У недалёкай будучыні, дзе сталі магчымыя падарожжы ў часе, нейкая карпарацыя прыбірае непажаданых людзей, адпраўляючы іх у мінулае ў пластыкавых пакетах. Задача прымаючага боку — усадзіць ахвяры кулю ў галаву, сцёршы тым самым няшчаснага з гісторыі. Усё ідзе гладка да таго часу, пакуль галоўны герой не распакоўвае чарговы пакет, выяўляючы ў ім ... самога сябе з будучыні.

Tut.by




### Tito & Tarantula едуць у Мінск

**8 кастрычніка ў Мінску ў клубе Dozari (пр. Незалежнасці, 58) упершыню адыграе канцэрт гурт Tito & Tarantula**, вядомы ў першую чаргу тым, што іх песні гучалі ў фільмах Квенціна Таранціна («Ад заходу да світання») і Роберта Радрыгеса («Адчайны»). Цэны на квіткі ад 400 тысяч рублёў да мільёна. З іншага боку, рок-музыка такога кшталту і мусіць гучаць у клубах, а не на стадыёнах.

# Смак беларускай мовы: «цынамон», «вавёрка» і «ружа»




Samsung размясціў **новыя білборды** ў падтрымку беларускай мовы.

У цэнтры Мінска ўсталяваныя дзесяць новых білбордаў з беларускамоўнымі словамі. Жыхары і госці сталіцы могуць убачыць плакаты з тлумачэннем, што такое «ружа», «чырвонагаловік», «гарэзлівасць», «певень», «сталасць», «трус», «цынамон», «вавёрка» і «вытанчанасць».

Новыя сіцілайты можна пабачыць у наступных месцах: вул. Багдановіча — пр. Пераможцаў (каля ўвахода на станцыю метро «Няміга»), пр. Незалежнасці, 91, пр. Незалежнасці,71, таксама на скрыжаванні вуліц Якуба Коласа — Сурганава, Захарава — Румянцава, Кірава — Леніна, Свярдлова — Кірава, вуліцы Максіма Танка — пл. Юбілейнай.

Нагадаем, год таму ў цэнтры сталіцы былі ўсталяваныя беларускамоўныя плакаты, якія тлумачылі, што такое «кавун», «ажыны», «шыпшына», «агрэст» «журавіны» і «суніцы». Праект атрымаў першае месца ў намінацыі «сацыяльная рэклама» на фестывалі рэкламы «ADNAK!».

**ЯМ**

## Топ-5 канцэртаў, якія варта наведаць да канца года

Ад верасня да снежня ў Мінску пройдзе дзясятак першаразрадных канцэртаў. **Такога не было** з дакрызісных часоў.

**1. 8 кастрычніка — Tito & Tarantula. Клуб Dozari**

Амерыканцы Tito & Tarantula ўпершыню завітаюць у Беларусь. Тут яны ўжо маюць сваю аўдыторыю дзякуючы саўндтрэкам да фільмаў Квенціна Таранціна і Роберта Радрыгеса. Як сапраўдныя каліфарнійцы Tito & Tarantula не абіралі нейкі адзін жанр, а спалучылі ў сваёй музыцы ўсё: ад блюза да стоўнара.

**Квіткі:** ад 400 тысяч рублёў да 1 мільёна.

**2. 15 кастрычніка — HBC The Super Trio. Белдзяржфілармонія**

Гэта віртуозныя джазавыя музыканты: адно імя Скота Хендэрсана робіць наведванне гэтага канцэрта абавязковым для аматараў джаза. Хендэрсан неаднойчы прызнаваўся «джазавым гітарыстам № 1 у свеце». Апроч яго, у трыа ўваходзяць віртуозны бас-гітарыст Джэф Берлін і бубнач Дэніс Чэмберс.

**Квіткі:** ад 200 тысяч рублёў.



**Nickelback: гурт заслужыў сабе месца ў рок-н-рольным раі.**

**3. 31 кастрычніка — Nickelback. Мінск-Арэна**

Nickelback называлі «найгоршым гуртам планеты», але нават крытыкі прызнаюць, што гэты гурт трапіць у рок-н-рольны рай за адзін толькі драйв.

Калі б Nickelback узяліся выканаць на канцэрце ўсе свае хіты, шоу б расцягнулася гадзінаў на пяць. А іх When We Stand Together заслужана пераўтварылася ў міжкантынентальны хіт.

**Квіткі:** ад 400 тысяч да 1,8 мільёна рублёў.

**4. 18 лістапада — Джон Маклафлін. Беларускі музычны тэатр**

Яго прынята лічыць джазавым гітарыстам, але калі ўзгадаць нават не ўсе, а толькі найважнейшыя праекты Маклафліна (гэта і культавы Mahavisnu Orchestra, і супольны праект з Карласам Сантанам, і гітарныя партыі ў альбомах Майлза Дэвіса), становіцца зразумела, што нават шырокае паняцце «джаз» цісне Маклафліну ў плячах.

**Квіткі:** ад 170 да 810 тысяч рублёў.

**5. 21 снежня — Мэрылін Мэнсан. Палац спорту**

Амерыканскі шок-рокер Мэрылін Мэнсан, які стаў суперзоркай 90-х, не страціў свайго статусу і сёння. Нават самыя адданыя фанаты Мэнсана не думалі, што калі-небудзь музыка завітае ў Мінск. Тым не менш, зараз ён знаходзіцца ў добрай форме — ягоныя альбомы сталі больш асабістымі, а сэт-ліст уключае ў сябе ўсе хіты, а таксама зусім свежыя песні.

**Квіткі:** ад 320 да 700 тысяч рублёў.

**Юрась Ускоў**

## Глыбоцкі грыбнік знайшоў гіганцкую порхаўку

Яна заважыла **пяць кілаграмаў**.

Грыбы порхаўкі часта сустракаюцца на ўзмежках палёў і ўскрайках лясоў, дзе дастаткова вільгаці і сонечнага святла. Пры асабліва спрыяльных умовах яны вырастаюць да значных памераў і важаць не грамы, а кілаграмы. Вось і глыбачанін Віктар Гігола, ідучы ў грыбы ў лес непадалёк ад горада, знайшоў такога прыгажуна, які важыць пяць кілаграмаў.

«Не ведаю, што з ім рабіць, але не мог не прынесці яго дадому, — гаворыць Віктар Вікенцьевіч. — Родныя і сябры былі вельмі здзіўлены маёй знаходцы, і мы нічога не прыдумалі іншага, як сфатаграфавацца з грыбам на памяць, бо не кожны дзень грыбы такіх памераў можна знайсці».

**«Веснік Глыбоччыны»**



## Мільярдэр дае $65 мільёнаў за жаніцьбу з дачкой-лесбіянкай

**Паспрабаваць свае сілы** можа кожны ахвотны.

Разбагацелы на гандлі нерухомасцю і суднаходстве магнат публічна паабяцаў узнагароду пасля паведамленняў, што яго дачка выйшла замуж за сваю даўнюю сяброўку. Сэсіл Чао, які сам ніколі не быў у шлюбе, заявіў, што яго дачка мае патрэбу ў «добрым мужы».



Аднаполыя шлюбы не прызнаюцца ў Ганконгу, хоць гомасэксуалізм быў дэкрымінізаваны там яшчэ ў 1991.

Гігі Чао, якая з'яўляецца прадпрымальніцай і мае дыплом Манчэстэрскага ўніверсітэта, заключыла грамадзянскі шлюб са сваёй партнёркай Шон Іу на цырымоніі ў Францыі ў пачатку года. Стасункі дзяўчат пачаліся 7 гадоў таму.

**BBC**

## Сціслa

**Пад Ваўкавыскам для турыстаў адкрыюць крэмніевыя шахты**

На месцы штольняў крэмніевых шахтаў у Ваўкавыскім раёне плануецца адкрыць музей. Грошы будуць узятыя з абласнога бюджэту, таксама ўлады разлічваюць на гранты трансмежнага супрацоўніцтва. Рэалізацыя плану прызначана на 2013—2014 гады.

**Google абнавіў свае мапы Мінска**

Спадарожнікавую мапу сталіцы Беларусі цяпер можна паглядзець па стане на ліпень ці жнівень 2012. А вось выява большасці астатніх гарадоў Беларусі не абнаўлялася ажно з 2004.

**Астраномы Беларусі і Расіі адкрылі надзвычай яркую камету**

Віталь Неўскі з Беларусі і Арцём Навічонак з Расіі адкрылі камету, якая можа стаць самай яркай за 10 гадоў, калі не разбурыцца ў палёце. Найбліжэйшую кропку да Сонца камета павінна прайсці ў канцы лістапада 2013.

**ЯМ**

## Прыватныя абвесткі

**ВЫШЫЎКА**

**Майстар народнай творчасці Галіна Рудніцкая** запрашае ў студыю беларускай народнай вышыўкі. Заняткі з кастрычніка па май раз на тыдзень (ранішняя і вячэрняя групы) па адрасе: вул. Гікалы, 4, Мінск (ст.м. плошча Якуба Коласа). Для іншагародніх магчыма інтэнсіўнае навучанне. Заняткі 2 разы на месяц па суботах з лістапада па сакавік. Т.: (029) 171-13-90.

**УЧАСТАК**

**Прадаецца ўчастак 26 сотак**, сад, усе камунікацыі, каля Ашмян, непадалёк ад трасы Мінск—Вільня. Т.: (у Ашмянах) 4-53-57, (044) 710-61-78.

**КВАТЭРА**

**Беларускамоўная пара** здыме 1-пакаёвую кватэру ў Мінску на доўгі тэрмін. Т.: (029) 595-84-20.

Прыватныя абвесткі ў «НН» можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на nn.by.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У мінскім парку Перамогі прайшла цырымонія закрыцця сезона фантанаў. Перад адключэннем фантанаў зладзілі невялікі феерверк.**



PHOTO BYMEDIA.NET

**Пасол Германіі Вольфрам Маас падчас свята «Журавы і журавіны» ў Мёрскім раёне.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У парку Горкага ўпершыню прайшоў конкурс 3D-малюнкаў на асфальце «Вакол свету за 8 гадзін». Удзел у ім узялі каманды з Мінска, Віцебска, Гомеля і Смаргоні.**



**Прэзідэнт Венесуэлы Уга Чавэс грае на гітары, якую яму падарыў мексіканскі спявак Вісэнтэ Фернандэс падчас сустрэчы ў Каракасе.**

## Анекдоты

***

– Алё, гэта ананімны тэлефон даверу КДБ?
– Так, Алесь.

* * *

Паважаныя грамадзяне, не забывайце, што даляры можна здаць датэрмінова.

* * *

Кажуць, што ў Беларусі ўсё даражэе. Але гэта няпраўда! Рубель не даражэе. Рубель таннее кожны год!

* * *

— Сёма, а чаму ты не падаўся ў дэпутаты?
— Рылам не выйшаў, Ізя!
— Ну што ты так груба, цяпер гэта называецца «не прайшоў фэйс-кантроль».

* * *

– Сёма, я ўчора так смяяўся! Ты забыўся завесіць фіранкі. Я бачыў, як ты голы і твая Цыля голая, ты бегаў за ёй, яна за табой. Я так смяяўся!
– Ты хочаш яшчэ больш смяяцца?.. Гэта быў не я.

* * *

У вёсцы паставілі вышку сотавай сувязі.
Праз месяц жыхары падалі скаргу. Маўляў, назіраюцца галаўныя болі, пагаршэнне самаадчування, бяссоніца і г.д.
Дырэктар сотавай кампаніі:
— Гэта ўсё лухта! Вы толькі падумайце, што будзе, калі мы яе падключым...

* * *

Эта жэншчына, Ермакова, навернае, эканаміст па абразаванію? Впечатляют её эканамічэскіе выкладкі, ціпа: эта ў нас патаму многа нулей, што даходы растут і растут. Скора мы вапшчэ так сказачна разбагацеем, што адні нулі ў кашальках і астануцца.

* * *

Вяселле было ціхім. У рэстаране быў бясплатны Wi-Fi.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Калі пяройдзем цяпер да рэзультатаў тых выбараў**, што ўжо адбыліся, мы нічога новага не пабачым. На валасных сходах сяляне найбольш выбіраюць сваіх старшын, старэст, пісараў. Калі часам здараецца такі факт, што бацюшкі падаюць галасы за левых кандыдатаў, — гэта паказвае, што ўжо не маюць больш змогі маўчаць, што чаша цярпення ўжо перапоўнена.

**«НН». №39. 1912.**

**Здарэнні самага апошняга часу** — напад 23 верасня на прафесара Адама Мальдзіса і 28 верасня на радыёжурналіста Генадзя Кеснера. Апошні ў выніку трапіў з чэрапна-мазгавой траўмай у лякарню. Здароўе Мальдзіса, які некалькі дзён ляжаў дома з пераломам рабрыны, рэзка пагоршылася, і ён таксама быў пераведзены ў бальніцу: аказалася, пераламаная скаба пашкодзіла лёгкае.

**«НН». №37. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8030. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 02.10.2012.
Замова №4426.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12